PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 14 (1925) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 4 КРАСАВІКА 1993 г. ЦАНА 3000 зл.

## ЧЫГУНКА НАД МАГІЛАЙ

Да ліквідацыі чыгуначнага шляху на адрэзку Гайнаўка — Белавежа раённыя /сядлецкія/ і цэнтральныя ўлады ПКП прымерваліся ўжо ад некалькіх гадоў. Белавежцам дагэтуль удавалася супрацьставіцца гэткім планам, але ўсё паказвае на тое, што ў найбліжэйшым часе чыгуначная камунікацыя ў пушчы ўсё-такі спыніцца. А каб яшчэ было „цікавей", ліквідацыйны апетыт улады ПКП пашырылі таксама на адрэзак Гайнаўка — Леўкі. Іх аргумент такі: чыгуначная цяга на трасе Белавежа — Леўкі знаходзіцца ў фатальным стане, а ПКП не мае на яе рамонт сродкаў /быццам патрэба 60 мільярдаў злотых/. І ўсё ясна! Дык, хіба, толькі чыгуначным уладам.

Звычайныя пасажыры з Гайнаўшчыны пытаюць: А хто да такой дэвастацыі дапусціў? Чаму ПКП загадзя не выконвала належных рамонтаў? Што цяпер рабіць сотням, калі не тысячам пасажыраў, якія карыстаюцца гэтым жа транспартам? Як жа ім дабірацца на працу, у школы, ці паехаць за іншага роду патрэбамі? Раённыя і цэнтральныя чыноўнікі нібыта абяцаюць узамен аўтобусны транспарт, але адначасова нічога канкрэтнага ў гэтай справе не здраджваюць. Хіба таксама яны не ўсведамляюць сабе, што аўтобусны транспарт у мясцовых умовах не заўсёды здае экзамен, асабліва зімой.

Паведамленне аб закрыцці з днём 1 чэрвеня г.г. чыгуначнага адрэзка Белавежа — Леўкі, падпісанае начальнікам Дарожнага аддзялення ў Седльцах, Казімежам Дудзінскім, прыйшло ў лютым у Чарому. Тамашнія прафсаюзы наладзілі ў сакавіку сустрэчу, на якой спадзяваліся высветліць прычыну гэтага вострага рашэння і адначасова абмеркаваць спосабы выратавання лініі, якая мае ўсё ж такі вялікае значэнне для мясцовага жыхарства і для... ахоўы прыродных рэсурсаў Белавежскай пушчы. Вядома, на сустрэчу былі запрошаны сядлецкія і цэнтральныя ўлады ПКП, а таксама прадстаўнікі мясцовых адміністрацыйных уладаў і з Беластока. На жаль, з цэнтральных уладаў ПКП ніхто не паклапаціўся прыехаць, а да таго начальнік Дудзінскі аказаўся чалавекам некампетэнтным, які ўдадатак не мае добрай волі, каб шукаць спосабы выратавання мясцовай чыгункі. Кожнае яго выказванне сведчыла, што ён іншай канцэпцыі, як толькі ліквідаваць белавежскалеўкаўскі адрэзак, не мае і не хоча мець. Усякая супрацьстаўная аргументацыя сплывала па ім, як з гусі вада. Як чытач здагадваецца, сустрэча закончылася фіяскам.

У чаромхаўска-гайнаўскім асяроддзі чыгуначнікаў ходзяць чуткі, што шэфы ПКП увайшлі ў пагадненне з нейкай аўтобуснай суполкай /вядома, не без карысці для сябе/, якая хоча менавіта манапалізаваць увесь транспарт на гэтай тэрыторыі. Калі гэта праўда, то можна толькі горка заплакаць над людской ненаеднасцю, блізарукасцю і неадказнасцю.

У Белавежы і Гайнаўцы часта цяпер пачуецца вось, такія выказванні жыхароў: было ў нас дагэтуль задуп'е, а цяпер ужо будзе зусім поўнае! Дзядзька Рыгор з Белавежы смяецца: „Зараз будзе так, як перад вайной, калі людзі хадзілі пяшком з Белавежы ў Гайнаўку. Мне там усё роўна, я ўжо і так стаю над магілай, але вас, маладых, шкада. Нават па тую куранёўку ў Гайнаўку не будзе чым з'ездзіць!"

І толькі падумаць, што некаторыя надалей вераць у тое, што далучаем да Еўропы!

**П. БАЙКО**



**Фота У.Завадскага**

## „НЯМА З КІМ ГАВАРЫЦЬ"

Калі пісаў я пра інцыдэнт у варшаўскім клубе БГКТ („Мафійныя парахункі ці палітыка", „Ніва" н-р 8/93), які меў месца 4 студзеня гэтага года, не было маім намерам называць вінаватых у ім. Апошняе слова застаецца за паліцыяй, пракуратурай і, калі да гэтага дойдзе, за судом. Пакуль гэтыя ўстановы разбіраюцца ў здарэнні, пісаць пра яго няма сэнсу. Пачакаем на новае святло і канчатковыя высновы.

Сёння будзе пра іншы, па-мойму, грамадска значна важнейшы, аспект справы. **Што будзе з беларускім клубам у Варшаве?**

Прыклаў я нямала высілкаў, патраціў шмат часу, каб знайсці адказ на гэтае пытанне, але яго так і не знайшоў. Ды і наўрад, ці ёсць чалавек, які ведае, што будзе з беларускім клубам у Варшаве? Тым не менш, лічу вартым падзяліцца з чытачамі тым, што ўдалося ўдакладніць мне наконт сённяшняй сітуацыі.

**Гаворыць намеснік дырэктара Прадпрыемства абслугі замежнікаў „Dipservice" Павел Багута:** „У 1989 годзе ўвайшоў у Польшчы ў жыццё новы закон адносна нерухомасцяў. Арэндная плата за наём памяшканняў стала элементам рыначнай сістэмы, а значыць, рэзка пайшла ўгару. Аднак да канца 1991 года з Беларускім таварыствам праблемы мы не мелі. З сакавіка 1991 года падпісалі мы дамову, на падставе якой БГКТ забавязалася плаціць нам 50 тысяч злотых за квадратны метр у месяц (мы спачатку запатрабавалі значна большую суму, але ў выніку перамоў пагадзіліся на зніжэнне цаны). У міжчасе даведаліся мы, што ў гэтым памяшканні мае сваю сядзібу камерцыйная фірма, на што, паводле дамовы, згоды не было. Пасля размовы з кіраўніцтвам Варшаўскага аддзела БГКТ, дзе было сказана, што фірму заснавалі члены гэтага аддзела, каб, між іншым, мець сродкі на чынш, мы далі згоду на яе існаванне. Дамовіліся тады так, што да канца года не будзем павышаць арэнднай аплаты, але ад новага падпішам другую дамову — плаціць за памяшканне тады давядзецца напэўна больш.

Такая дамова, з Галоўным праўленнем БГКТ, была падпісана з датай 1 студзеня 1992 года (ад імя Таварыства падпісаліся тадышні намеснік старшыні ГП Аляксандр Іваноўскі і галоўны бухгалтар Марыя Паўлючук — М.В). Таварыства павінна было плаціць нам па 160 тысяч злотых за квадратны метр у месяц, але, да гэтай пары, за 1992 год на наш рахунак не паступіла нават залатовачка. **Доўг таварыства вырас у нас у суму 238.521.500 злотых.**

Зразумейце мяне добра, я кірую фірмай, якая павінна на сябе зарабіць. Я не магу сабе дазволіць траціць грошы, а тут ужо назбіралася ладная такі сума.

Я не ведаю як выглядае фінансавае становішча БГКТ, але думаю, што не

☞ Працяг на стар. 3

## ХТО ПАШМАРУЕ, ТОЙ І ПАЕДЗЕ

Людзі на вёсцы здаюць у дзяржаўны фонд сваю зямлю або перапісваюць яе на дзяцей — такім чынам атрымліваюць рэнту. Ян Лукашук са Збуча зрабіў гэтак у 1984 годзе — зямлю аддаў дзяржаве, атрымаў рэнту, а з усёй гаспадарскай маёмасці пакінуў сабе невялікі ўчастак /17 сотых/ з будынкамі /хата, клуня, абора, склеп, шпіхлер і кузня/. Сам пераехаў жыць у Бельск-Падляшскі, дзе пабудаваў дом. Здавалася б, што чалавеку ў жыцці больш шчасця і не трэба.

Калі Лукашук пасяліўся ўжо ў Бельску, сталі яго наведваць Лявон Карнілюк /старшыня сельскагаспадарчага кааператыва ў Збучы; калгаса, па-нашаму кажучы/ і Уладзіслаў Ціханюк /скарбнік/. Намаўлялі Яна Лукашука, каб ён упусціў у свае будынкі кааператыў.

—Бюро кааператыва, — сказаў мне Ян Лукашук, — памяшчалася ў той час у аборы. Чыноўнікі кааператыва мерзлі ў ёй як сабакі. Наканец дамовіліся мы, што калгас купіць ад мяне гэтыя будынкі.

Старшыня Карнілюк увайшоў з кааператывам у будынкі Яна Лукашука ўжо 1 лістапада 1985 года. З афармленнем дамовы аб куплі ад Лукашука яго маёмасці аднак не кваліўся. Ян Лукашук з'ездзіў у Збуч больш за дзесятак разоў — не ўдалося аднак яму сустрэцца са старшынёю кааператыва. У канцы стаў туды ездзіць штодзень. Бухгалтар кааператыва, Марыя Пракапюк, якая штодзень была ў сваім бюро, адказвала Лукашуку, што нічога пра старшыню не ведае. Мясцовыя людзі сказалі яму, што старшыня Карнілюк спецыяльна ад яго хаваецца.

Да сустрэчы дайшло 24 снежня 1985 года. Тады Ян Лукашук і Лявон Карнілюк падпісалі ўступную дамову аб продажы для кааператыва будынкаў. Ян Лукашук ацаніў сваю маёмасць на 1 мільён 700 тысяч злотых. Кааператыў забавязаўся да 15 студзеня 1986 года правесці ацэнку маёмасці з дапамогай спецыяліста. 15 студзеня абодва бакі мелі таксама сустрэцца ў Бельску і ў прысутнасці натарыуса заключыць фармальную дамову.

На пачатку студзеня 1986 года Ян Лукашук прадставіў натарыусу ўсе неабходныя з яго боку дакументы. Натарыус аднак адказала, што няма яшчэ дакументаў з боку кааператыва. Пад канец студзеня Ян Лукашук заехаў у Збуч з прэтэнзіяй да старшыні, чаму той запыняе справу. Лявон Карнілюк адказаў яму, што ўзніклі некаторыя ўскладненні ў Ваяводскім саюзе сельскагаспадарчых кааператываў у Беластоку, маўляў, са свае кішэні не буду гэтага купляць.

Праз люты, сакавік і красавік Ян Лукашук ездзіў у Збуч, каб давесці да завяршэння ўсяе справы.

— Старшыня калгаса стаў грубіянскім. „Ты так часта да нас прыязджаеш, што табе хіба на кавалак хлеба бракуе". Ха-

☞ Працяг на стар. 3

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*— Gdyby cała ściana wschodnia wyludniła się — mówi Simona Kossak — czy można sobie wymarzyć coś lepszego? Ludzie nie chcą uprawiać rolnictwa ekologicznego, wyjeżdżają do miast, wymierają. My przejmujemy te ziemie i mamy wreszcie gigantyczne wczasowisko w Europie. Czy coś się stanie, jeśli zniknie kilka czy kilkanaście białowieskich wiosek. Nic. Zasiejemy tam las.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 63, z reportażu Janusza Niczyporowicza)*

Мы можам сабе ўявіць нешта лепшае. Людзі не хочуць экалагічнай сельскай гаспадаркі, выязджаюць у гарады і, каб іх спруціла, паміраюць — усё гэта, несумненна, чыніць жыццё ў Белавежы панурым і невыносным. Таму мы прапануем пані Сімоне wczasy ў Харошчы. Ці штосьці станецца, калі яна знікне на некалькі або некалькінаццаць гадоў у спакойным месцы, дзе можна мроіць пра рэчы яшчэ больш гігантычныя? Нічога. Лес засеецца сам, без ейнай дапамогі.

Паслухайма аднаго з белавежскіх ляснічых, у тым жа рэпартажы:

*— Każdy tutaj ma pomysł na puszczę — mówi jeden z leśników — ale pod kątem własnego interesu. Naukowcy chcą mieć ogromny rezerwat, żeby prowadzić badania, pisać prace naukowe i publikować je. Najlepiej za granicą. Nam, leśnikom, zarzucają, że my tych prac nie czytamy i w ogóle jesteśmy półanalfabetami. Oni z kolei nie mają pojęcia o gospodarce leśnej, a największy zachwyt budzi u nich rosnący przy drodze dąb szypułkowy.*

... і перспектыва gigantycznego wczasowiska.

* * *

*Што ні кажыце, а артыстаў ў нас хапае. Напрыклад, адзін зусім нядаўна з'явіўся ў Астраўцы. Пераапрануўшыся ў адзенне святароў і завучыўшы „Ойча наш", ён пачаў хадзіць па дамах „па калядзе". І тыя вернікі, якія ў вочы і не бачылі сапраўднага ксяндза, прынялі „жартаўніка" за святара: стараліся адзячыць таго і падарункам, і грашыма.*

*(Чырвоная змена, н-р 18)*

Хрысціянства, як відаць, адраджаецца на Беларусі і стыхійна, з глыбіні народных масаў, а не толькі як інтрыга ксяндзоў з Польшчы.

* * *

*На зборцы афіцэраў у Маскве генерал Д.А. Іваноў з Беларусі сказаў:*

*Здесь наша судьба, наше будущее, потому спасибо вам, что вы, Союз офицеров России, являетесь судьбой наделенными организаторами второго всеармейского офицерского собрания и что мы вместе с вами в единстве помыслов и сердец присутствуем здесь составом делегации от нейтрального по смехотуре государства. (Бурные аплодисменты.)*

*(Народная газета, н-р 43)*

Фактычна, трэба задумацца, ці Рэспубліка Беларусь разумна паступае, узяўшы кірунак на нейтралітэт. Маючы гэткіх генералаў?! Адзін дэсант, і Калінінградская вобласць наша. А потым — адкрыты выхад на Борнхальм.

* * *

*Brańsk i Wyszki chcą do Łap...*

*(Gazeta Współczesna, nr 53)*

Што значыць: гміны Бранск і Вышкі хочуць быць у Лапскім павеце. Мы не пярэчым. А нават петыцыю да ўраду падпісаць можам.

* * *

*Wierzy Pan, że będzie kiedyś — niekoniecznie po najbliższych wyborach — prezydentem RP?*

*— Ja to wiem. Tak jak wiedziałem, że wyjdę z więzienia, że nie umrę na serce w 1986 roku, że Polska odzyska niepodległość. Możecie to nazwać wizjonerstwem, czy poczuciem misji.*

*(Gazeta Polska, nr 12, z wywiadu z przewodniczącym KPN Leszkiem Moczulskim)*

Мы называем гэта dobrym samopoczuciem.

* * *

*Pomysł politycznej etykiety przywędrował z USA, ze środowisk akademickich. Jednakże wyczyszczanie języka angielskiego posunęło się do granic absurdu. Oto kilka przykładów nowej etykiety politycznej: „prostytutkę" zastąpiono „pracownicą seksualną", „gospodynię domową" — „artystką domatorką". „Nazwisko panieńskie" uznano za antyfeministyczne i zastąpiono w formularzach — „nazwiskiem urodzenia". „Eskimos" jest również terminem tabu, ponieważ pierwotnie oznaczało „jedzącego surowe mięso". Teraz obowiązuje termin „tubylec Alaski".*

*(Polityka, nr 11)*

У нашым беластоцкім жыцці таксама пайшлі амерыканскія звычаі. Сёння „kacap" — гэта „Polak prawosławny", Ryżyk, Kiryziuk i Ignatiuk — „Ukraińcy Podlasia", „tubylec Krynek" — Sokrat Janowicz, „ściana wschodnia" — „gigantyczne europejskie wczasowisko".

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**75-годдзе БНР** урачыста адзначалася ў Беластоку. З гэтай нагоды служылася набажэнства ў Святамікалаеўскім саборы, адбылася вечарына ў Ваяводскім асяродку анімацыі культуры, а з канцэртам выступілі калектыў "Маланка" і тэатр "Балаган".

**Міжнародны дзень тэатра** праходзіў у Беластоку пад знакам супрацоўніцтва мясцовага Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі з Тэатрам імя Янкі Купалы ў Менску. З гэтай нагоды беластоцкія акцёры паставілі п'есу М. Гогаля "Рэвізор", якую рэжысіраваў Валеры Раеўскі з Менска, а "купалаўцы" паказалі "Дом на мяжы" С. Мрожка (рэжысёр Анджэй Якімец з Беластока) і "Тутэйшых" Янкі Купалы (рэжысёр Н. Пінігін). У фае тэатра была адкрыта выстаўка "Янка Купала. Асоба і час".

**Эканамічны камітэт Рады Міністраў** на апошнім сваім пасяджэнні разглядаў між іншым, праект пагаднення наконт стварэння польска-беларускага суднаходнага таварыства.

**Газаправод з Расіі ў Нямеччыну** (дыўжынёю ў 4000 км) будзе праходзіць у ваколіцах Беластока. Кошт будовы польскага адрэзка (670 км) складзе суму 3 млрд. долараў, а большасць будаўнічых прац на тэрыторыі нашай дзяржавы выканаюць мясцовыя фірмы. У выніку ўжо ў наступным годзе будуць створаны новыя месцы работы для беспрацоўных і ў нашым ваяводстве.

**Унію маладых украінцаў** пры Аб'яднанні ўкраінцаў у Польшчы стварылі ўдзельнікі з'езда маладых украінцаў у Пярэмышлі. Прысутнічала ў ім 40 чалавек - прадстаўнікоў Саюза незалежнай украінскай моладзі, скаўтаўскай арганізацыі "Пласт" і ўкраінскіх школ.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Мордань заклікае да еднасці беларусаў, тутэйшых, рускіх, праваслаўных і ўкраінцаў.
- Лук'янюк наракае на бюракратаў.
- Байко піша пра час, калі патрэбны быў дазвол пана на шлюб.
- А Лёнік усё рысуе.

## ПРЫВІТАННІ

**Дарагія Суродзічы!**

Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі вітае Вас з знамянальнаю датаю — 75-мі ўгодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

Нягледзячы на тое, што ў жніўні 1991 году Беларусь зноў абвесьціла сваю незалежнасьць, дзень 25 Сакавіка 1918 году назаўсёды застанецца ў памяці народнай, як дзень, калі лепшыя сыны і дочкі Беларусі пачалі новую эпоху ў гісторыі нашай Бацькаўшчыны.

Мы ўпэўнены, што 25-ы Сакавік стане галоўным нацыянальным сьвятам у вольнай Беларусі. Ён, як той цудоўны сьветач, будзе зырка гарэць над разьняволенай Бацькаўшчынай.

Нягледзячы на палітычныя і эканамічныя цяжкасьці на шляху да поўнага нацыянальнага адраджэньня, мы верым, што Беларусь пераможа гэтыя цяжкасьці, правядзе неабходныя дэмакратычныя рэформы і стане сапраўды вольнай і дэмакратычнай дзяржавай сярод вольных дзяржаў сьвету.

Няхай ёй ў гэтым дапаможа Усявышні!

**Жыве Беларусь!**

**Расьціслаў Завістовіч**
**Старшыня**

**Міхась Сенька**
**Сакратар**

**Ліст у рэдакцыю**

Сардэчна дзякую ўсёй Рэдакцыі нашай беларускай „Нівы" за вельмі цікавую газету. Яна была заўсёды цікавай, але ад нейкага часу, стала яшчэ цікавейшай. Зычу поспехаў у яе выдаванні, каб я заўсёды магла браць „Ніву" з такой ахвотай, як цяпер.

**ВАЛЯНЦІНА ЗАЛУСКА**
**Бельск-Падляшскі**

**Ад рэдакцыі:** Шчыра дзякуем за добрыя словы і жадаем, каб Вы заўсёды так пра нас думалі.

## АБ'ЯВА

Прадам дом з гаражом, гаспадарчым будынкам, агародам. Гайнаўка, тэлефон 27-17 або 35-00.

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### УГОДКІ БНР

75-годдзю ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі быў прысвечаны марш за незалежнасць Рэспублікі Беларусь, які адбыўся ў Менску 21 сакавіка. Завершыў яго мітынг у парку імя Янкі Купалы. Акрамя таго, члены Беларускага аб'яднання вайскоўцаў, прадстаўнікі іншых арганізацый, якія актыўна выступаюць за нацыянальнае адраджэнне, усклалі кветкі да помнікаў нацыянальным героям. А 25 сакавіка ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адкрылася выстава "Жыве Беларусь!", дзе прадстаўлены невядомыя раней матэрыялы з фонду літаратурных музеяў рэспублікі, Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Беларусі, архіва КДБ рэспублікі і ўрадавай бібліятэкі Беларусі.

### ДЗЕ ЗНОЙДЗЕМ, ДЗЕ СТРАЦІМ - НЕ ВЕДАЕМ САМІ

Пакуль у Міністэрстве інфармацыі рэспублікі прадстаўнікі Акадэміі навук Беларусі, Міністэрстваў адукацыі, культуры і абароны, Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, Рэспубліканскай тэрміналагічнай камісіі і Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра раіліся і ўзгаднялі намаганні розных ведамстваў і арганізацый дзеля паспяховага выканання "Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Рэспубліцы Беларусь", каля будынка аднаго з раённых аддзелаў па народнай адукацыі ў Менску праходзіла пікетаванне. У пікеце прынялі ўдзел каля паўсотні чалавек - выхавацеляў беларускамоўнага дзіцячага садка і бацькоў яго маленькіх наведвальнікаў. Удзельнікі акцыі абралі за мэту прыцягненне ўвагі грамадскасці да таго, што ў сувязі з капітальным рамонтам калектыў аднаго з двух існуючых у раёне беларускамоўных садкоў, дзе на працягу дзесяцігоддзя назапашваўся вопыт навучання дзяцей забытай беларускай мове, расфарміроўваецца без гарантый прадстаўлення новай работы.

### "МІНІ-ЧАРНОБЫЛЬ" БЛУКАЕ ПА БЕЛАРУСІ

Чарговы выпадак крадзяжу радыеактыўных рэчываў адбыўся днямі на вытворчым аб'яднанні "Граніт", што ў Мікашэвічах - невядомымі злодзеямі вынесены ўзроўнямер. Гэта ўжо трэці выпадак крадзяжу радыеізатопаў на прадпрыемстве за апошні год. Прынамсі, пасля паведамлення дыпламатычных служб заходніх краін у беларускіх сродках масавай інфармацыі аб тым, што замежныя бізнесмены не купляюць радыеізатопы без спецыяльнага сертыфікату якасці, паляванне за радыеізатопамі на фабрыках і заводах рэспублікі спынілася. Як аказалася ненадоўга.

### ЦЯЖКА ЖЫЦЬ БЕЗ ПІСТАЛЕТА

У хуткім часе самы звычайны грамадзянін Беларусі атрымае магчымасць легальна і не выязджаючы за межы рэспублікі набыць пісталет. Праўда, пакуль што газавы. У Савеце Міністраў Беларусі падрыхтаваны праект адпаведнай пастановы. Набыць "газавік" можна будзе толькі пры наяўнасці спецыяльнага дазволу міліцыі. Дазвол у сваю чаргу выдаецца любому псіхічна здароваму і законапаслухмянаму грамадзяніну. Вось толькі якімі будуць цэны - прадказаць цяжка.

### ГАЛОДНЫ ГАЛОДНАГА ЗРАЗУМЕЕ

Камісія па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь выдаткавала 1 мільён рублёў Беларускаму гуманітарнаму адукацыйна-культурнаму цэнтру на патрэбы газеты віленскіх беларусаў "Наша ніва". Падтрымка "замежных" беларусаў на афіцыйным дзяржаўным узроўні дае падставы для аптымістычных прагнозаў наконт захавання беларушчыны і па-за межамі рэспублікі.

### ЗАЗІРНІЦЕ Ў ЗАЎТРА

На Беларусі паявілася яшчэ адна арганізацыя, якая займаецца сацыялагічнымі і палітычнымі прагнозамі. Рэспубліканскі цэнтр сацыялагічнага і палітычнага прагнозу зарэгістраваны як грамадская арганізацыя. Акрамя непасрэдных сацыялагічных даследаванняў, тут плануецца падрыхтаваць доўгатэрміновыя прагнозы з прыцягненнем спецыялістаў-аналітыкаў.

### ПРАЛЕТАРЫЯТУ НЯМА ЧАГО ГУБЛЯЦЬ

У 1992 годзе на прадпрыемствах і ў арганізацыях Беларусі звольнены 72 тысячы работнікаў. Беспрацоўнымі прызнаны 36,6 тысяч чалавек.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

## „НЯМА З КІМ ГАВАРЫЦЬ”

*Працяг са стар. 1*

найлепш. У сувязі з гэтым мы ўжо два разы выходзілі з прапановай замяніць гэтае памяшканне на меншае, таннейшае, але нашы прапановы не спаткаліся з прыхільнасцю.

Сёння мы можам вярнуцца да гэтых прапаноў, бяда толькі, што не маем з кім гаварыць. **Гэта галоўная праблема — мы не маем партнёра для размоў. У нас не было нікога, хто мог бы прымаць нейкія рашэнні. Кантакт з беларускім таварыствам канчаецца на лісце з ГП ад 5 лютага, пры чым, нават не падпісаным** (подпісы нечытэльныя — М.В.). Гэта ж несур'ёзна.

Дарэчы, у гісторыі нашых узаемных дачыненняў атрымлівалі мы ўжо лісты, у якіх называлі нас нацыяналістамі і таму падобнымі словамі.

Я не магу сцвердзіць, што выкарыталі мы інцыдэнт ад 4 студзеня, каб выкінуць нежаданых кватарантаў. Але ж і даўжэй такая сітуацыя не магла працягвацца. Ды і цяпер, праўду сказаць, мы ў тупіку — чынш надалей незаплачаны, мэбля заваьвае склады, а тут, паўтараю, і размаўляць няма з кім.”

**Намеснік старшыні ГП БГКТ Янка Сычэўскі кажа,** што стаўленне „Dipservice” да Таварыства не было такое прыхільнае, як на словах дырэктара Багуты. „Пра будучыню цяжка што-небудзь гаварыць, паколькі не маем магчымасцяў заплаціць такую суму, якую патрабуе ад нас уласнік. Але, калі яны згодны паставіцца да нас са зразуменнем, дык безумоўна, трэба будзе весці з імі перамовы”.

Я мушу зазначыць, што гэта істотная змена пазіцыі, паколькі ва ўспомненым дырэктарам Багутам лісце Таварыства наогул адмаўляецца плаціць доўг. А гэта з тае прычыны, што ад восені 1991 года ў клубе вёўся рамонт і мянялася цэнтральнае ацяпленне. У такіх выпадках уласнік звычайна абніжае чынш. Таварыства на працягу 1992 года выкарыстоўвала толькі 10 працэнтаў — паводле ліста — усяе плошчы. За гэта дастаткова тых 25 мільёнаў, якія Таварыства заплаціла наперад яшчэ ў 1991 г.

**Старшыня Варшаўскага аддзела БГКТ Мікола Алексяюк:**

„Мы, як аддзел, не можам нічога зрабіць, бо не з'яўляемся юрыдычнаю асобай. Бакі, якія могуць і павінны між сабой дамаўляцца, гэта Галоўнае праўленне і „Dipservice”.

Я толькі хацеў бы звярнуць увагу на адзін аспект справы. Чаму „Dipservice” праяўляе цяпер столькі клопату, каб знайсці нам новае памяшканне. Калі гэта чыста прыбытковая фірма, дык выкінулі нас і цяжар з плеч. Ці тут няма нейкіх абавязацельстваў перад гарадской управай. Калі мы ў 1987 годзе пераязджалі на Старасцінскую, улады горада вельмі дапамагалі, каб памяшканне атрымалі мы на выгадных варунках. Ці не згэтуль бярэцца цяперашняе згоднiцтва ўласніка?

— І яшчэ адно — не ўсё можна вымяраць грашамі. **Калі мы страцім памяшканне ў Варшаве, абамруць тут усялякія формы арганізаванага беларускага жыцця. Гэта не Бельск ці Гайнаўка, дзе ёсць дамы культуры, школы. У нас звыш 30-гадовая дзейнасць абапіралася якраз на клуб. З ім — спачатку на Сенатарскай, потым на Старасцінскай — звязалі свой лёс цэлыя пакаленні варшаўскіх беларусаў”.**

Ад сябе дадам, што і студэнтаў з Беласточчыны.

Я, як чалавек, які ў свой час быў амаль жыхарам варшаўскага беларускага клуба (нашага клуба — гаварылі мы з сябрамі) пытаюся: ці сапраўды мусіць яго БГКТ страціць? Ці такі закон гісторыі, ці віна тут за канкрэтнымі людзьмі?

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

## НЕ ПЕРАСАДЖВАЙЦЕ СТАРЫХ ДРЭЎ

- Тата, будзе вам цяпер лепш жыць, - сказаў сын Андрэю. - Забяру вас у горад да сябе. Дроў не трэба рубаць, печак паліць, цёпла. Нават за патрэбай на двор не трэба хадзіць. Будзеце толькі шпацыраваць па парку, досыць у жыцці напрацаваліся.

- Добра, сыночку, добра, але што скажа нявестка?

- Нічога, прыходзьце, тата. Неяк зладзімся. Я не супраць таго, каб вы ў нас былі.

Маладыя выехалі, а Андрэй сказаў аднавяскоўцам, што пойдзе жыць у горад.

- Дурны ты, Андруша! - закрычаў на яго Мікіта. - Сядзі ты лепш дома і носа не высоўвай! Ты думаеш, там такое дабро? Табе што, кепска тут?

Праз тыдзень Андрэй быў у сына. У кватэры, сапраўды, утульна, цёпла. Толькі, вось, з чым бяда. Сын з жонкай ідуць на працу, а яму не дазваляюць пакідаць хату.

- Ведаеце, тата, зладзеі ходзяць, вы лепш пільнуйце маёнтак.

Сядзіць Андрэй дома, нават па хаце баіцца перайсціся... Выйшаў аднойчы на вуліцу, рашыў паразмаўляць з суседзямі.

- Адкуль вы самі? - запытаўся бабулю, што сядзела на лавачцы з унукам.

- Цо? Я не розумем, цо пан до мне мувi? - бабка здзіўлена паглядзела на старэчу.

Андрэй загаварыў па-польску. Аказалася, з Сувалкаў была бабка. Паразмаўлялі старыя, якіх дзеці забралі з вёсак да сябе...

- Ведаеце, тата, - папракаў сын Андрэя, - чаго вы да людзей чапляецеся, калі не ведаеце добра польскай мовы?

- А хіба ж я чапляюся? - здзівіўся Андрэй.

- І вы цішэй дома гаварыце, гэта вам не падворак. Ва ўсім блоку чутна...

Жыццё абрыдла старому. Сказаў урэшце:

- Хопіць гэтых камедыяў. Паеду я да сябе. Што ж за жыццё для мяне тут? Нават пагаманіць няма з кім. Не хачу я такога добрага жыцця. Вязіце мяне назад у вёску.

Не пераканалі старога Андрэя дзеці. Вярнуўся ў сваю хату.

**АЎРОРА**

## З МАЙГО ПАНАДВОРКА

Нядаўна наведаў я тры базары, дзе гандлююць нашыя сябры з Беларусі і не толькі. Быў я ў Гарадку, Міхалове і ў Беластоку — на Кавалерыйскай. У Міхалове мог купіць „Біблію”, выдадзеную ў 1917 г. у Санкт-Пецярбурзе. Хаця каштуе толькі 600 тысяч зл., але і так не падыходзіць яна на маю кішэнь. У Гарадку было шмат посуду, мясных вырабаў, а таго яшчэ была гарэлка і спірт. У Беластоку рамантыкі маглі купіць генеральскую шаблю за адзіныя 500 тысяч злотых.

Не разумею, што робіцца на мяжы. Нядаўна вёз я старыя гадавікі „Нашай нівы”, якую выдавалі ў Вільні дзесьці ў пачатку стагоддзя. „Нельзя”, — крычалі таможнікі і не дазвалялі мне яе перавезці. Але чаму постсавецкі турыст мог вывезці вялікай вартасці „Біблію”, і хто дазваляе, каб валялася яна на базарах разам з водкай і мясам? Ці можна легальна перавезці шаблю? А можа толькі п'яныя таможнікі яе не заўважылі? Сам не ведаю, што пра гэта думаць. Калі можна такія цацкі вазіць, дык хіба сам паеду і прывязу нешта з музеяў.

**ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР**

## НЕ ЗАБЫВАЙЦЕ ПРА „НІВУ”

Як хутка ляціць час: ужо мінула 25 гадоў з часу, як я пачаў пісаць у „Ніву”. Тады былі гэта маленькія занатоўкі ў рубрыку „Трыбуна чытачоў”. Некалькі разоў пераставаў я пісаць, потым ізноў пачынаў. Улады мяняюцца, але характар чалавека застаецца надалей той самы і яму цяжка забыць роднае слова. Гэтаксама і са мною.

Добра запамятаўся мне мой першы з'езд карэспандэнтаў, калі я ўпершыню пераступіў парог рэдакцыі. Першым журналістам, які мяне прывітаў, быў спадар Міхась Хмялеўскі. Я лічыў, прызнаюся ён, што вы намнога старэйшы чалавек. Калі давялося рабіць падрыхтаванне да з'езда, мы з Міхасём пайшлі ў „дэлікатэсы” каля рэдакцыі. Міхась сказаў мне, што ўпершыню бачыць такога чалавека, які прыехаў з вёскі і так дапамог яму зрабіць патрэбнае падрыхтаванне. Запрасіў я потым Міхася Хмялеўскага прыехаць да мяне на калядкі. Міхась прыняў запрашэнне, а я й крыху прызабыў пра яго. У першы дзень Калядаў я пайшоў на хрэсьбіны цяперашняй жонкі ўнука Дзядзькі Кваса Андрэя. З хрэсьбін паклікала мяне мая маці, сказаўшы, што хтосьці прыехаў з Беластока. Я быў вельмі рады, убачыўшы ў хаце Міхася Хмялеўскага з сябрамі. Яны не маглі прыехаць на машыне, было шмат снегу, і прыйшлі пехатою з Трысцянкі, 4 кіламетры, каб сфатаграфаваць каляднікаў і маю сям'ю. Выпіўшы па чарцы, мой бацька адвёз іх у Трысцянку, а я вярнуўся на хрэсьбіны.

Праходзілі з'езды, адзін за адным, я стараўся быць на кожным, і думаў, каб здабыць званне Карэспандэнта года, але гэта мне ніколі не ўдалося, хоць даўжэйшы час трымаўся ў першым дзесятку. Першымі карэспандэнтамі бывалі: М. Панфілюк, У. Сідарук, В. Петручук. Мяняліся журналісты, а нас нязменна брала пад сваё крыло спадарыня Вера Валкавыцкая. З ёю было добрае супрацоўніцтва. У той час мы слабавата ведалі беларускую мову, і спадарыня Вера нас папраўляла і вучыла. Я пачаў пісаць крыху вершыкаў і аднойчы дастаў ад сп. Веры пагрозу, каб пісаў прозай, і тады ёй адпісаў:

Пагражаць мне грозай,
Каб пачаў пісаці прозай.
Што тут многа гаварыці,
Як лягчэй мне верш зладжыці.

Тады перасталі да мяне чапляцца і сказалі: пішы як хочаш, абы не забываў сваёй мовы і пісаў, што табе на душы набалела.

Пісаў я і пераставаў, потым зноў пачынаў і зноў пераставаў. Калі пайшоў гэты раскол паміж „Нівай” і Таварыствам, я зноў стаў пісаць, каб прыпомніць усім былым журналістам „Нівы” і працаўнікам Таварыства — аб'яднайцеся і захавайце той даробак, што мы супольна выпрацавалі. Не забывайце роднае мовы, яна нам вельмі дарагая, пішыце ў „Ніву” — яе чытаюць беларусы па ўсім свеце.

Спадары Валкавыцкі, Хмялеўскі, Шаховіч, Паўлючук, Яновіч, Целушэцкі, карэспандэнты — не забывайце пра „Ніву”! Нас чакаюць жыхары нашых заняпалых вёсак, беларусы ў гарадах і суродзічы па ўсім свеце. Я хачу, каб „Ніва” прыгажэла і развівалася — мы мусім у гэтым дапамагчы. Чакаю вашых артыкулаў —

ваш сябра **М. ЛУК'ЯНЮК**

P.S. Аўроры не ўспомніў, але яна ніколі „Ніву” не здрадзіла.

## ХТО ПАШМАРУЕ, ТОЙ ПАЕДЗЕ

*Працяг са стар. 1*

цеў ад мяне грошы на хабары — „ну, ведаеш, хто шмаруе, той і едзе”.

Ян Лукашук паскардзіўся на яго ў Ваяводскі саюз кааператываў. Там Лукашуку адказалі, што ўступная дамова няправільна афармлена, а старшыня збучоўскага кааператыва, у сваю чаргу, не так як трэба яе выконвае. Прызналі яшчэ, што па-праўдзе кааператыву ў Збучы Лукашуковы будынкі не патрэбныя — кааператыў мае свой пляц і свае будынкі ды месца на новыя.

У верасні 1986 года Лявон Карнілюк адышоў з пасады старшыні сельскагаспадарчага кааператыва ў Збучы.

— Да гэтага часу, — сказаў Ян Лукашук, — кааператыў разваліў сцены ў аборы, прашіў кузню і разваліў ток у клуні, дзе зрабіў склад штучных угнаенняў.

Новым старшынёю кааператыва стаў Вітальд Каліноўскі з Гайнаўкі. Ян Лукашук у той час паскардзіўся на кааператыў у Раённую пракуратуру ў Гайнаўцы — пракурор параіў яму, каб справу скіраваць у Раённы суд у Бельску і такім чынам выкінуць кааператыў з будынкаў. Тут Ян Лукашук аднак разгубіўся і замест засудзіць калгаснікаў, стаў справу афармляць з новым старшынёю. Новы старшыня адказаў, што ад куплі будынкаў не адракаецца. Лукашук аднак заявіў, што цана 1 мільёна 700 тысяч не адпавядае ўжо фактычнай вартасці ўсёй маёмасці. Той згадзіўся, што пакуль заплаціць Лукашуку 1 мільён 700 тысяч, а даплату ўзгодніць як з самім Лукашуком, так і з управай кааператыва.

У студзені 1987 года збучоўскі кааператыў пералічыў на рахунак Яна Лукашука 1 мільён 700 тысяч злотых. 15 студзеня 1987 года Ян Лукашук і яго жонка сустрэліся ў прысутнасці натарыуса з прадстаўнікамі кааператыва — Вітальдам Каліноўскім, Янам Раманюком /член управы/ і бухгалтарам Марыяй Пракапюк. Натарыус забавязала абодва бакі пагадзіцца адносна цаны — была падпісана ўмоўная дамова аб продажы. Пасля гэтага справа павісла ў паветры. У перыяд ад 1987 да 1989 года ніхто з кааператыва не з'явіўся ў натарыуса.

У гэты час таксама звольніўся з пасады Вітальда Каліноўскага — новым старшынёю стаў Ян Алексяйчук. Ён і Ян Раманюк 16 сакавіка 1990 года прыехалі ў Бельск да Яна Лукашука — усе яны падаліся да натарыуса. Ян Лукашук падтрымаў сваё становішча, што грошы, якія заплацяў яму кааператыў не адпавядаюць фактычнай вартасці будынкаў. Натарыус папрасіла дамовіцца наконт новай цаны. Тады калгаснікі паднялі вэрхал — натарыус выкінула іх за дзверы. Лукашуку параіла падаць іх у суд, што той і зрабіў.

— На вуліцы яшчэ заявілі мне, — кажа Ян Лукашук, — што не даплацяць ні залатоўкі, будуць карыстацца маёй маёмасцю, а я іх не крану.

Раённы суд у Бельску 31 кастрычніка 1990 года адтэрмінаваў разгляд справы Яна Лукашука, бо ейны вынік залежыць ад разгляду іншай справы. У той час кааператыў унёс у суд сваю справу — забавязаць Яна Лукашука скласці заяву волі аб перадачы кааператыву маёмасці. 30 студзеня 1991 года суд прызнаў маёмасць кааператыву. Раней, бо 16 студзеня, у справе, якую ўнёс кааператыў супроць Лукашука, суд забавязаў Яна Лукашука і яго жонку заявіць, што перадаюць маёмасць збучоўскаму кааператыву — прысуд гэты і заступіў натарыяльны акт уласнасці.

Ваяводскі суд у Беластоку, куды звярнуўся Лукашук, адхіліў рэвізію.

— Лічу, што такі ход справаў магчымы, дзякуючы знаёмствам кааператыва ў бельскім судзе. Працуюць там людзі са Збуча. Бухгалтар кааператыва заявіла мне, што яны мусяць выйграць гэту справу — лепш улялюшчыць грошы ў суд, чымсьці мне даплаціць. У лютым дзевяноста першага сустрэў я неяк аднаго з калгаснікаў — немажліва, сказаў мне, выйграць з імі. У судзе яны моцныя — чалавека з яго хаты могуць выкінуць.

## НЕМЦЫ МАЮЦЬ ГРОШЫ, А БЕЛАРУСЫ ІНТЭЛІГЕНЦЫЮ

Да такога вываду дайшоў я пасля сустрэчы прадстаўнікоў усіх нацыянальных меншасцяў з новым міністрам культуры Ежым Гуралем. Вітаючы гасцей віцэ-міністр Міхал Ягела сказаў, што нацыянальныя меншасці ўрад бачыць таксама як стваральнікаў культуры польскай дзяржавы. У найбліжэйшай будучыні — гаварыў Ягела — прадбачваецца стварэнне Упаўнамочанага ўрада па справах нацыянальных меншасцяў і праўдападобна будзе гэта ўстанова пры Радзе Міністраў.

На фінансавую дапамогу ўсім меншасцям у гэтым годзе запланавана ў бюджэце больш, чым 11 мільярдаў злотых. Гэта сума, якая дазваляе на датацыю аднаго часопіса для кожнай меншасці і дафінансаванне культурных мерапрыемстваў паводле раней складзеных запатрабаванняў паасобнымі арганізацыямі.

Як першы павіншаваў новаму міністру высокага паста Аляксандр Баршчэўскі і падзякаваў, што знайшоў ён час сустрэцца з дзеячамі няпольскіх арганізацыяў. Старшыня БГКТ паінфармаваў, што Таварыства страціла ўжо ўсе памяшканні апрача будынка Галоўнага праўлення ў Беластоку, дзе за незаплачаны чынш таксама назначана судовая справа. Як вынікала з выказванняў прадстаўнікоў іншых меншасцяў маюць і яны свае цяжкасці, але ў нікога сітуацыя не ёсць такой драматычнай, як у беларусаў.

Шыман Шурмей, старшыня Яўрэйскага грамадска-культурнага таварыства, звярнуў увагу, што для яго асяроддзя найважнейшай астаецца ўсё яшчэ існуючая праблема антысемітызму і ксенафобіі. Прапанаваў супольныя намаганні, каб пазбыцца гэтай небяспечнай для дэмакратычнага парадку хваробы.

Юры Рэйт, старшыня Аб'яднання украінцаў у Польшчы, выказаў погляд, што дыскусія ў сеймавых камісіях над тым, ці меншасцям даць 6 ці 10 мільярдаў — для іх вельмі прыніжальная. Апрача цэнтральнага фінансавання, культурная дзейнасць нацыянальных меншасцяў павінна быць яшчэ фінансаваная мясцовымі ўладамі з гарадскіх бюджэтаў і гмінных там, дзе жывуць гэтыя меншасці. Трэці спосаб — прадаўжаў Рэйт, гэта пошукі метадаў выпрацоўкі ўласных фінансавых сродкаў. Украінцы такім чынам маюць прыбытак у некалькі мільярдаў злотых.

Вальтэр Ангрык, старшыня Аб'яднання немцаў паўночнай Польшчы, мае зусім іншыя праблемы чым беларусы. „Мне грошы непатрэбныя, — гаварыў немец, — хіба, што сімвалічная залатоўка, але перш за ўсё патрэбная нам нармальная падтрымка з боку ўрада". Паінфармаваў, што ў чэрвені гэтага года плануюць яны сарганізаваць сустрэчу польскай і нямецкай моладзі, маюць на гэта грошы — тры мільёны марак — ад Міністэрства ўнутраных спраў Баварыі. Гэтая сума /30 мільярдаў злотых/ амаль тры разы большая, чым сума якую атрымаюць усе нацыянальныя меншасці ад урада Польшчы ў 1993 г. Праблема спадара Ангрыка — як купіць замак у Юдытах, якога не хоча прадаць мясцовая адміністрацыя за ніякія грошы.

Немец Дзітмар Брэмер са Шлёнска пачаў сваю прамову ад доказаў, што лаяльнасць ёсць асаблівай прыкметай яго нацыі. „Мы заўсёды былі, ёсць і будзем лаяльнымі грамадзянамі польскай дзяржавы" — прадаўжаў Брэмер. Кахаем Польшчу, яе гісторыю і культуру і не адносімся абыякава да гаспадарчых праблемаў, асабліва Шлёнска. Нямецкі ўрад дае нам грошы, але заўсёды з засцярогай, што назначаны яны не для нямецкай меншасці, але на развіццё рэгіёнаў, дзе яна жыве. Зразумела, скарыстаюць з гэтага таксама і палякі — закончыў прадстаўнік шлёнскіх немцаў.

Пасля гаварылі цыганы, славакі і літоўцы. Прадстаўнікі ўсіх нацыянальных меншасцяў падкрэслілі, што нягледзячы на сімвалічную толькі матэрыяльную дапамогу з боку ўрада, адчувалі шчырае і сур'ёзнае зацікаўленне іх патрэбамі віцэ-міністра Міхала Ягелы і дырэктар Багумілы Бэрдыхоўскай. Прысутныя былі згодныя, што іх маральная падтрымка рэкампенсавала няраз матэрыяльныя цяжкасці.

З цікавейшых момантаў сустрэчы трэба таксама адзначыць выступленне войта бельскай гміны Ю. Ігнацюка, які дамагаўся, каб кампетэнцыі Бюро па справах нацыянальных меншасцяў перадаць мясцовым уладам. І Яна Чыквіна, які ашаламіў прысутных інфармацыямі пра літаратурна-творчыя магчымасці беларускага асяроддзя. Старшыня „Белавежы" сказаў, што толькі ў апошніх 3 гадах беларускія пісьменнікі выдалі 25 кніжак свайго аўтарства, а больш, чым 100 ад пачатку існавання літаб'яднання. Пасля сустрэчы адзін немец сказаў мне, што 25 кніжак то яны могуць выдаць нават за 3 тыдні, але каб іх напісаць і 30 гадоў будзе замала.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

P.S. У „Ніве" н-р 12, пішучы пра сустрэчу прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў з віцэ-міністрам культуры Міхалам Ягелам, я пісаў, што Ян Сычэўскі выказаў думку, што палітыка міністэрства вядзе да падзелаў у беларускім асяроддзі. Асоба, якая вяла дакладныя нататкі звярнула мне ўвагу, што аўтарам гэтай думкі быў хтосьці іншы, а Ян Сычэўскі ў сваім выступленні праўдападобна прабаваў толькі палагодзіць так рашучы погляд.

Спадара Сычэўскага і чытачоў „Нівы" шчыра перапрашаю.

**Яўген Мірановіч**

## ПРЭЗІДЭНТУ ЎЖО РЫХТУЮЦЬ ПАЛАЦ

Аляксандр Прушынскі (сын вядомага польскага пісьменніка Ксаверыя Прушынскага), да нядаўна канадскі эмігрант, вярнуўся ў Варшаву. Сям'я Прушынскіх калісьці мела маёнтак на Украіне, але Аляксандра не цікавяць сямейныя сентыменты і Украіна. Ягоны зрок кіруецца на Беларусь. Ён паставіў пры сваім прозвішчы тытул графа і нейкі час таму заявіў, што хоча стаць прэзідэнтам Беларусі. Пакуль што ў канстытуцыі Беларусі няма палажэння аб пасадзе прэзідэнта, але графа Прушынскага гэты факт не бянтэжыць. Ён заснаваў газету „Pryzmat", у якой растлумачвае беларускаму народу, што трэба рабіць, каб было добра, і чаму гэта можна зрабіць адно пад ягоным кіраўніцтвам. „Gazeta Wyborcza" (nr 67) змясціла матэрыял пра Аляксандра графа Прушынскага, з якога прапануем чытачам колькі цікавых інфармацый пра кандыдата на прэзідэнта. Смяяцца можна, калі ласка, але майце на ўвазе, што Стан Тымінскі таксама быў з Канады...

З газеты „Pryzmat":*

*Ziemia białoruska wydała wielu wybitnych ludzi, Radziwiłłowie, Czartoryscy, Chodkiewicze. Wydała Kościuszkę, Ogińskiego, Mickiewicza, Traugutta, Moniuszkę i co tu dużo mówić Piłsudskiego, który jakimś cudem czuł się... Litwinem (...). Dziś, gdy odradza się Białoruś wydawało by się, że trzeba by ich wezwać do powrotu, do pomocy w budowie Nowej Białorusi, wspólnej Ojczyzny Polaków, Białorusinów i Rosjan.*

Гэта выглядае на спробу выклікання прывідаў, такі сабе seans spirytystyczny, але на Беларусі ўсё магчымае.

Аляксандр нарадзіўся ў Рагозніцы на Гродзеншчыне. Захаваўся ягоны дом.

З „Gazety Wyborczej":

*Ten dom w Rohoźnicy sprawił, że tam wróciłem, odwiedzam go co miesiąc, stoi wciąż ogromny, po prostu Belweder w środku kołchozowych pól. (...) Administracja kołchozu zasłoniła widok na jezioro. Śmierdzący wychodek ustawiła obok pałacu, tuż przy frontowym wejściu. Więc mówimy im, że przed wojną były w pałacu łazienki. Ciągle tam przyjeżdżam i robię im jakieś uwagi, więc przewodniczący kołchozu wezwał architekta i kazał pałac odnowić.*

Як бачым, першую перамогу будучы прэзідэнт ужо дасягнуў. Нужнік перанеслі ў іншае месца. „Gazeta Wyborcza" піша, што за гэтым прыкладам народ наогул не пайшоў.

З газеты „Pryzmat":

*Mamy już jesień i chłody. Zaczęto w Mińsku palić w kaloryferach, ale w bardzo wielu domach konstatuję, że nie ma na kaloryferach pojemników z wodą. Jest to konieczne, bo kaloryfery dają suche powietrze i dla organizmu potrzebna jest pewna ilość wody w powietrzu. Inaczej skóra się łuszczy, ma się złe samopoczucie, a zwłaszcza dzieci źle śpią.*

Таксама й тут беларусы не паслухалі асвечанага графа. У кожным выпадку, мы не бачылі pojemników z wodą na kaloryferach w Mińsku.

**Чаму беларусы мусяць выбраць Прушынскага?**

*Jestem jedynym na Białorusi zajmującym się sprawami publicznymi, który z własnego doświadczenia wie, jak funkcjonuje państwo znane z dobrobytu i demokracji (...). Mam też taką przewagę nad wszystkimi mymi potencjalnymi kandydatami, że nie musiałem, jak oni, deklamować komunistyczne banaluki. Najtrudniejszym zadaniem będzie jednak nie wygranie wyborów, ale pełnienie roli głowy państwa.*

**А што Прушынскі думае пра Шушкевіча?**

*Oczywiście nie mam nic przeciwko obecnemu prezydentowi. Szuszkiewicz jest prawdziwym szlachcicem Rzeczypospolitej Obojga Narodów, a z Landsbergisem potrafi się dogadać tylko po polsku.*

**Чаму ў Беларусі кепска?**

З газеты „Pryzmat":

*Doszło do tego podobnie jak do Rewolucji Francuskiej — z powodu zadłużenia w wyniku zagranicznych wojen. Związek Sowiecki prowadził ich sporo: (...) To doprowadziło do katastrofy gospodarczej, którą teraz naród odczuwa. Dotąd dzban wodę nosił, aż mu się ucho urwało.*

**Як трэба ратаваць беларускую мову?**

*Powiedziałem ministrowi kultury: „Panie, trzeba wydawać lekkie powieści romantyczne po białorusku, po roku będzie miał pan efekty". W końcu wyjdzie na to, że to ja, Polak, dbam o białoruski. A przecież ja tu muszę dbać o Polaków, bo rząd białoruski nie zhańbił się wydaniem choćby jednego rubla na sprawy polskie.*

**А чаму не зганьбаваўся?**

*Organizacji polskiej w Mińsku przewodzi pan Gawin, były oficer techniczny KGB. Stale pozostaje w konflikcie z polskim konsulem. — Profesor Smułkowa, specjalistka od języka białoruskiego jako konsul nie potrafi o nic się upominać — uważa pan Gawin. — Kiedy arcybiskup białoruski kazał zdjąć polską flagę przed kościołem, nie zwróciła na to uwagi.*

**Што трэба запытацца ў „Нівы"?**

*Ciekawe tylko — zastanawia się Pruszyński — czy ona ma takie instrukcje z Polski, czy tak z własnej woli nic nie robi. W tej sytuacji ja muszę odbudowywać tu polskość, bo przez 50 lat nie wydano żadnej polskiej książki, a trzeba zapytać tych facetów z „Niwy" z Białegostoku, ile książek wydano w Polsce w języku białoruskim.*

☞ *Працяг на стар. 6*

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

## ЗАЗІМАК НАД ІСЛАЧЧУ /10/

У мяне няма здароўя, каб часта бываць у Рэспубліцы Беларусь. Лягчэй сцярпець беларускага хама ў Беласточчыне. Ён ідэнтычны з савецкім у Гародні або ў Менску, але падатлівейшы на сорам. Бо той нават не апраўдваецца, чаму сваіх дзяцей пагадаваў на ворагаў Бацькаўшчыны.

Хамства ёсць тыповае для паўінтэлігентаў. У сялян або ў рабочых няма гэтага. Ім не здаецца, што яны ўсенькія розумы паелі!

Мікалай Янкоўскі жыве ў глухім завулку Мядзвежына. Сваімі рукамі пабудаваў хату, а за грошы з шафёрства накупіў мэблі ў яе. На палітыку глядзіць, як на панскія гульні. Устае на работу, калі яшчэ ноч на двары. Ездзіць на гарадскім аўтобусе; першы курс перад пятай гадзінай раніцы. Зарабляе дзевятнаццаць тысяч рускіх рублёў, удвая больш ад інжынера або настаўніка. Яго жонка робіць ў той жа фірме. У іх дзве дочкі. Меншая вельмі добра вучыцца і Мікалай надта задаволены яе працавітасцю. На слёзы малой, што школу пераводзяць на беларускую мову, адказвае здзіўленнем: - Ну і што?... Не разумееш?!. Мы ж ужо не саветы, а беларусы!

У нядзелю мы з Таняй былі гасцямі ў іх. Зайшоў і Мікалаеў брат з жонкаю. Руская мова зляцела з іх, як з нас злятае польская /асабліва пасля трэцяй чаркі/. Брат працуе на фінскіх маршрутах „цiраў". Да фінаў у яго раздвоеныя пачуцці: хваліць чысціню і сумленнасць, крывіцца на скупасць. Беларускім патрыётам стаў, аднак, не ў Фінляндыі, але ў Расіі. Пабачыўшы безгалоўе ў Маскоўшчыне. - Немагчыма ў іх жыць! Там можна толькі піць і буяніць!

Успомнілася „саланінная тэорыя" Янушкевіча: беларус выжыве без гарэлкі, але не без сала! Рускія, што аселі жыць у Беларусі, сталіся як бы непадобнымі самі да сябе. Спраўна працуюць, не запіваюць, заводзяць агароды. Значыць: чалавека і нацыю фармуюць варункі. Але як іх змяніць у самой Расіі? Яна ж такая страшная сваім мілітарызмам і культам беднасці! Ад часоў Пятра I імперыя правяла каля сарака вялікіх ваенных аперацыяў, з якіх усяго дзве мелі абарончы характар: у 1812 г. і ў 1905 г. Ці адрачэцца ад „победных" спеваў?

Янкоўскія, калі пабойваюцца Расіі, дык у тым сэнсе, каб зноў не счапілася яна з кім ваяваць, бегаючы па Беларусі - то назад, то наперад.

Цяпер ужо ўсюды жывецца горай, чым у Беларусі, калі думаць пра тэрыторыю былога Савецкага Саюза. Але, як доўга так пабудзе! - вось пытанне.

Заходнюю Еўропу не дагоняць - ні Беларусь, ні Польшча, ні тым болей Расія ці Украіна. Заходнееўрапейская цывілізацыя і яе паўночнаамерыканскі працяг уяўляюць сабою менавіта глабальную анамалію, якую сігнальна можна назваць культам індывідуалізму. Свет жа наогул жыве ў духу калектывізму, у якім чалавечая адзінка не мае істотнага значэння, знаходзіцца яна пад кантролем або маральным ціскам асяроддзя. Савецкія героі, што кідаліся сваім целам на нямецкія кулямёты, або японскія камікадзэ, што гінулі разам з самалётамі, успрымаліся на Захадзе як дзікуны або псіхічна хворыя... Вайна амерыканцу або французу мусіць быць лагічнай, бы тая гульня ў шахматы. Абарона без шанцаў выстаяць кваліфікавалася ў катэгорыю шаленства, фанатычнага варварства.

Заходнія еўрапейцы кахаюць таго, хто дабіўся вялікай удачы для сябе. Мы такіх удачнікаў ненавідзім! Гэта галоўная прычына таго, што камунізм укараніўся ў нас, а не ў іх. Хоць прыдумалі яго немцы з французамі ды ангельцамі, але Заходняя Еўропа безупынна прадукуе не толькі мноства тавараў; стварыла і рынак ідэяў на выбар. Бяры-перабірай!

Вяртаючыся з Рэспублікі Беларусь у Беласток думалася праз усю марозную дарогу, як гэта ўсё ж немагчыма ўцячы ад Гісторыі. Расійскі мядзведзь няраз падбіраў лапаю пад сябе Беларусь з Інфлянтамі і Украінаю. І ўсё роўна гэтыя краіны вырываліся з ягоных абдымкаў.

Каторы ўжо раз маскоўскі Мішка ў залётах?! Але вяселля так і не будзе!

**САКРАТ ЯНОВІЧ**



# ВЕЛІКАПОСНЫЯ РОЗДУМЫ АЙЦА КАНСТАНЦІНА

## АПОШНІЯ БУДУЦЬ ПЕРШЫМІ

У пятую нядзелю Вялікага Посту Царква экспануе памяць святой Марыі Егіпецкай, прыклад жыцця якой наглядна доказвае магчымасць падняцця чалавека нават з найбольшага падзення. У плане евангельскай храналогіі, у гэты дзень адзначаецца прадвесце Хрыстовых пакутаў. У 10-м раздзеле Евангелля паводле Марка чытаецца ў гэты дзень: „Вось мы ўваходзім у Іерусалім, - заявіў Хрыстос сваім вучням, - і Сын Чалавечы будзе выданы архірэям і кніжнікам, і засудзяць Яго на смерць і выдадуць Яго паганам; і наздзекваюцца над Ім, і будуць біць Яго і пляваць на Яго; ды заб'юць Яго; і на трэці дзень уваскрэсне". Расчараваныя гэткай перспектывай браты Зевядзеевы папрасілі: „Дай нам сесці ля Цябе, аднаму з правага боку а другому з левага ў славе Тваёй". Як астатнія апосталы і наогул, большасць людзей, яны думалі зямнымі катэгорыямі. За невыгоды спадарожніцтва Настаўніку спадзяваліся ўзнагароды. У адказ на іхнае славалюбства і неразуменне Сваёй місіі, Хрыстос сказаў: „Хто хоча стацца вялікшым між вамі - няхай будзе вам слугою; і хто хоча стацца першым сярод вас - хай будзе нявольнікам ўсіх... бо і Сын Чалавечы не прыйшоў, каб Яму служылі, але каб паслужыць і аддаць душу сваю на выкупленне многіх".

Разуменне ўлады як службы чужое было апосталам у той час і вельмі рэдкае сярод іхных намеснікаў-епіскапаў - цяпер. Грэх Паўла з Самасаты памножвалі царкоўныя „князі", ствараючы культ сваіх асобаў, акружаючыся раскошай і багаццем. З апостальскай прастатою яны маюць гэтулькі супольнага, колькі мітра з цярновым вянком... Чалавеку наогул характэрная схільнасць да ўзвышэння сябе, эгаізм ды імкненне да багацця, славы і найвышэйшых пасадаў. Тым часам само жыццё паказвае, што ўлада пераважна дэмаралізуе чалавека. Нездарма гаворыцца: дзе ўлада там і грошы, а дзе грошы - там і ўлада. У сучасным, секулярызаваным свеце гэты факт успрымаецца як нармальная з'ява, аднак ні адно, ні другое не мае нічога супольнага з асноўным хрысціянскім прынцыпам; можа служыць задавальненню нездаровых амбіцыяў, але не служыць душы...

У Евангеллі гаворыцца, што „апошнія будуць першымі, а першыя - апошнімі". Нават народная пагаворка заўважае, што „не месца чалавека ўпрыгожвае, але чалавек месца". Ведаючы, што чалавечыя паняцці ідуць уразрэз з гэтай праўдай, Евангелле заклікае задавальняцца сваёй працай, паходжаннем і пазіцыяй ў грамадстве. „Каму больш дадзена, ад таго больш запатрабуецца", - сказана ў адной з прытчаў. Каб заслужыць на вышэйшую пасаду, спярша трэба добра выканаць менш экспанаваныя працы. Вось таму евангельскаму слузе гаспадар сказаў: „Ты ў малым быў верны, дык над многім цябе пастаўлю..."

Аднойчы кандыдату на высокую пасаду ягоны канкурэнт сказаў: „Памятаю, што Ты чысціў боты майму бацьку". „Гэта праўда, але ён ніколі не скардзіўся, што дрэнна я іх чысціў", - адказаў зачэплены.

Калі прэзідэнт ЗША Эндр'ю Джонсан у сваёй прамове адзначыў, што прайшоў усе ступені юрыдычнай кар'еры, адзін з сенатараў здзекліва заўважыў: „Ад краўца пачынаючы". Прэзідэнт зусім не збянтэжыўся. „Гэта мяне не ганьбіць, - спакойна адказаў ён. - Я меў рэпутацыю саліднага краўца. Гэтак жа пастараюся выконваць і абавязкі прэзідэнта".

У 34-м годзе папа Пій XI прыняў на аўдыенцыі ў Рыме 300 прыбіральшчыкаў вуліц. Яны сціпла адзначылі нізкі ранг сваёй прафесіі і падзякавалі за багаславенства. У адказ папа сказаў: „Вы падкрэслілі сваю нізкую пазіцыю ў грамадстве, я аднак гэтак не лічу. Што значыў бы нават найпрыгажэйшы горад, калі б быў брудны".

Парафразуючы гэтыя словы можна было б дадаць: „Які быў бы свет без розных празаічных працаў, без чорнарабочых, якія ціха выконваюць свае неімпазантныя, недаацэньваныя, але як жа патрэбныя працы. Што варты быў бы нават найлепшы генерал без радавых жаўнераў; што зрабіў бы адзін выдатны прафесар без простых фельчэраў?

Кожны на сваім месцы і ў сваім часе можа плённа пакарыстацца дадзенымі яму магчымасцямі. Можна крыўдзіцца на ўвесь свет, што марнуюцца нашы незвычайныя здольнасці, што мы недаацэненыя. Можна ўсё жыццё пражыць з горкім перакананнем, што маглі дасягнуць больш і заслугоўвалі на больш. Можна ўвесь час зайздросціць суседу, што ў ягоным агародзе нават трава зелянейшая, марыць ды імкнуцца вышэй і далей, але ці чакае нас там нешта сапраўды лепшае - невядома.

Такія пытанні Царква мэтанакіравана ўздымае падчас Вялікага Посту. Сам Пост неўзабаве кончыцца, але падобныя пытанні не перастануць нас хваляваць. А паколькі само жыццё неаднойчы ставіць перад вялікімі, экзістэнцыяльнымі дылемамі, Евангелле па-матчынаму падказвае нам неабавязковы, але аптымальны шлях.

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

## ДЗЯКУЕМ І ВІНШУЕМ

Рэдакцыі бюлетэня „Modlitwa i Praca" з Гажова-Велькапольскага сардэчна дзякуем за экземпляры Вашага выдання і віншуем знакамітых перакладаў з „Нівы" на польскую мову.

**РЭДАКЦЫЯ**

## ПЕРАПРАШАЕМ

Тыдзень таму назад паінфармавалі мы чытачоў, што напішам, як Беласток святкаваў Дзень Незалежнасці — 25 Сакавіка. Рыхтуецца даволі абшырны матэрыял са святкаванняў і месца якое мы адвялі ў гэтым нумары аказалася замалым. Чытачоў "Нівы" перапрашаем і запрашаем чытаць 15 нумар нашага тыднёвіка, дзе будзе змешчаны ўспомнены матэрыял.

**Рэдакцыя**

## ВЕЛІКАПОСНЫЯ НЯДЗЕЛІ

### V НЯДЗЕЛЯ — 4 КРАСАВІКА — ПРАПАДОБНАЙ МАРЫІ ЕГІПЕЦКАЙ

Жыццё святой Марыі паказвае нам дзве супярэчнасці – глыбіню грэшнага падзення і вышыню ўзнясення з таго ж упадку. На гэтым прыкладзе Царква паказвае, што сапраўдная пакута змывае самыя цяжкія грахі і можа падняць грэшніка на вышэйшую ступень духовай дасканаласці. Прападобная Марыя ў маладосці была вялікай грэшніцай і распусніцай, але ў трыццацігадовым узросце апамяталася яна і падалася ў іарданскую пустыню, дзе правяла 48 гадоў у малітве і посце, пакутуючы за грахі маладосці.

Евангелле на гэтую нядзелю — Марк X,32-45 — гаворыць аб набліжаючыхся страсцях Хрыстовых. — Суботу перад V нядзеляй называюць Пахвалой Багародзіцы або суботай Акафіста. Устаноўлена яна на памяць трайнога ацалення Канстанцінопаля ад наездаў ворагаў у VII-IX стагоддзях. Прыпамінаючы гэтыя здарэнні, Царква моліцца адначасна Божай Маці пра вызваленне нас ад усялякіх бед, умацоўвае ў тых, хто каецца, надзею на яе дапамогу.

* * *

Паводле ўстава Святая Чатырадзесятніца канчаецца ў пятніцу шостага тыдня. Падчас набажэнства гэтага дня Царква рыхтуе вернікаў на святкаванне Уваскрашэння Лазара і Уваходу Гасподняга ў Іерусалім. Гэтыя два дні (таксама посныя) вылучаюцца з усяго поснага перыяду і значнасцю падзей, і аблягчэннем посту.

**С. Н.**



*Прападобная Марыя Егіпецкая*

# ДАБРАВЕШЧАННЕ

**ТРАПАР, спеў 4**

*„Сёння пачатак нашага збаўлення і з прадвечнага Таінства выяўленне, сын Божы сынам Дзевы становіцца, і Габрыель дабрыню дабравесціць — Таму і мы з ім усклікаем да Багародзіцы: радуйся Дабрадатная, Госпад з табою!"*

Гэтае свята напамінае нам здарэнні звязаныя з аб'яўленнем Архангела Гаўрыіла Прасвятой Дзеве Марыі. Згодна з навукай Царквы з'яўляецца яно пачаткам нашага збаўлення, аб чым абвяшчаюць першыя словы трапара. З моманту з'яўлення Архангела Прасвятой Дзеве, пачынаецца ў гісторыі чалавецтва новая, ясная старонка. Словы „Радуйся, Дабрадатная" былі ў сутнасці першай так добрай весткай, якую пачула чалавецтва пасля таго, як у выніку першароднага грэху парвала яно сувязь з Богам. Гэтую сувязь вярнуць меў Сын Божы шляхам свайго ўвасаблення (воплощения), якое мела паслужыць збаўленню чалавецтва. Вялікае таінства нашага збаўлення магло здзейсніцца толькі пры дапамозе прачыстай і святой дзевы. Годнай выпаўніць гэту ролю аказалася дачка святых і справядлівых Якіма і Анны — Дзева Марыя, самая Святая з ліку ўсіх Святых, з усіх істотаў прачыстая і беззаганная. Можна сказаць, што Прасвятая Дзева Марыя была плодам посту і малітвы сваіх бацькоў. Бог паслаў ім яе ў познюю старасць.

Марыя з 3 года жыцця прабывала ў храме, згодна волі Якіма і Анны, якія паабяцалі, што сваё дзіця ахвяруюць служыць Богу. Традыцыя Свята гаворыць, што Марыя, яшчэ да Дабравешчання, прабываючы ў Іерусалімскім Храме ведала аб тайне ўвасаблення ў Яе Сына Божага. Было Ёй тады 12 гадоў, калі пачула голас Божы. Пасля заканчэння 14 гадоў Прасвятая Марыя Панна была заручаная са старцам Іосіфам. Згодна яўрэйскім законам, не магла яна далей прабываць у храме, але пакуль не магла вярнуцца дадому (Яе бацькі ўжо памерлі) мусіла Яна выйсці замуж. Архіпастыр, ведаючы абяцанне Марыі астацца Дзевай, заручае яе з Іосіфам, удаўцом, у якога было некалькі дзяцей ад першага шлюбу. Фармальна, паводле законаў Дзева Марыя была жонкай Іосіфа, хаця не была ёю ў сапраўднасці. Марыя стала жыць у доме свайго апекуна ў Назарэце.

Вось, што пра гэтыя здарэнні піша Свяшчэннае Пісанне ў Евангеллі ад Лукі 1, 26—38:

26ю. У шосты ж месяц пасланы быў Ангел Гаўрыіл ад Бога ў места Галілейскае, называнае Назарэт,

27. да дзевы, заручанай з мужам, іменем Язэп, з дому Давідавага; імя ж дзевы — Марыя.

28. Ангел, увайшоўшы да яе, сказаў: радуйся, дабрадатная! Госпад з табою; багаслаўлена ты між жанок.

29. Яна ж, убачыўшы яго, спалохалася ад слоў яго і разважала, што б гэта было за прывітанне такое?

30. І сказаў ёй Ангел: не бойся, Марыя; бо ты знайшла ласку ў Бога.

31. І вось зачнеш у чэраве і народзіш Сына і дасі Яму імя: Ісус.

32. Ён будзе вялікі і Сынам Найвышэйшага назавецца, і дасць Яму Госпад Бог пасад Давіда, бацькі Яго,

33. і царыць будзе над домам Якава давеку, і царству Яго не будзе канца.

34. Марыя ж сказала Ангелу: як гэта будзе, калі я не знаю мужа?

35. І ў адказ сказаў ёй: Дух Святы найдзе на цябе, і сіла Найвышэйшага ахіне цябе: вось чаму й тое, што народзіцца святое, Сынам Божым назавецца.

36. Вось і Альжбета, сваячка твая, і яна зачала сына ў старасці сваёй, і гэта ўжо шосты месяц у яе, хоць і называнай няплоднай.

37. Бо ж у Бога ніводнае слова не будзе немагчымым.

38. І сказала Марыя: вось я — слуга Госпада; няхай станецца мне па слову твайму. І адышоў ад яе Ангел. (Словы „У шосты ж месяц...", в. 36, абазначаюць шосты месяц зачацця Альжбетай св. Іаана Хрысціцеля).

Цуд зачацця Багамладзенца, так як і Яго нараджэнне з'яўляецца вялікай тайнай набожнасці, якая магчымая толькі на шляху веры. Гэта неспазнаная нашым розумам таямніца Увасаблення, пасля Божай любові здзяйсняецца яна падчас кожнай літургіі, калі Дух Святы выходзіць на хлеб і віно, якія ляжаць на прастоле і перамяняе іх у Цела і Кроў Хрыста.

Свята Дабравешчання адзначаецца **7 красавіка** (25.03 па ст. стылю). Яго гісторыя сягае глыбокай старажытнасці. Пачаткова называлася яно „Зачацце Хрыста", „Дабравешчанне аб Хрысце", „Пачатак збаўлення" (искупления), „Дабравешчанне Анёла Марыі". Спачатку было яно адным з самых важных святаў, бо паводле слоў св. Афанасія Вялікага (IV ст.) упамінае яно пачатак Божага плана збаўлення чалавецтва.

Асабліва ўрачыста Царква пачала адзначаць Дабравешчанне ў процівагу ерасі Нестара, які імкнуўся прынізіць Багамаці і які таксама прапаведаваў фальшывую навуку аб увасабленні Ісуса Хрыста.

У нашай традыцыі гэтае свята так вялікае, што грэх у той дзень займацца нават самай лёгкай працай. Народная прыказка гаворыць, што на Дабравешчанне нават птушкі не ўюць сабе гнёздаў. У дарэвалюцыйнай Расіі, а асабліва ў Маскве, бытаваў звычай выпускаць на свабоду птушак з клетак у знак вызвалення людской душы ад грэху. На наступны дзень пасля Дабравешчання — 8 красавіка (26.03 па ст. стылю) — Царква ўшаноўвае памяць св. Архангела Гаўрыіла як вестуна вялікай таямніцы ўвасаблення Сына Божага. Гэта ён абвясціў Божую волю аб зачацці св. Іаана Хрысціцеля, ці таксама Багародзіцы аб яе Успенні. Імя Гаўрыіл абазначае сілу, Божую моц, тую веру, для якой няма нічога немагчымага.

*Радуйся Дабрадатная, Госпад з Табою!*

**С. Н.**

# ДАКАЖЫ, ШТО НЕ ВЯРБЛЮД

Сярод беларускіх арганізацый у Польшчы, якім Міністэрства культуры і мастацтва прызнала ў гэтым годзе дафінансаванне, быў і Звяз беларускай моладзі. Але, на жаль, грошай тых — 58 мільёнаў — Звяз праўдападобна не атрымае. Прычынай устрымання датацыі быў артыкул Глеба Бабкіна „Гэты элітарны Зьвяз" у менскай газеце „Добры вечар", большую частку якога складае інтэрв'ю са старшынёю ЗБМ Маркам Заброцкім.

З выказванняў Марка Заброцкага для „Добрага вечара" недвухсэнсава прабіваецца паўвайсковы характар яго арганізацыі — захапленне мундзірам, элітарнае членства, прызнанне арганізацыйных здольнасцяў фашыстам і камуністам. „Калі 20 чалавек, убраныя ў нейкую прыгожую форму з бел-чырвона-белымі нашыўкамі, значкамі Зьвяза ідзе па вуліцы — гэта аўтаматычна прыцягвае моладзь" — чытаем у артыкуле словы старшыні.

„Зьвязаўцы вымушаны будуць рабіць палітыку" — піша Глеб Бабкін. Заброцкі, паводле яго, гаворыць так: „Сёння палітыкай лічыцца тое, што мы прызнаёмся беларусамі, а калі аформіліся ў арганізацыю, дык гэта, для палякаў, вялікая палітыка".

Карэспандэнтка Польскага прэсавага агенцтва ў Менску Уршуля Мікалайчык пераклала гэты фрагмент па-свойму (у афіцыйным камунікаце!/: „Kiedy okrzepniemy organizacyjnie, to będzie oznaczało dla Polaków wielką politykę".

Пасля такога сцвярджэння чытач мае поўнае права палічыць ЗБМ арганізацыяй авантурысцкай, небяспечнай для грамадскага парадку.

Я меў магчымасць назіраць за ЗБМам з моманту яго ўзнікнення ў лютым 1992 года, таму гэты артыкул поўнасцю мяне ашаламіў. Ці сапраўды погляды старшыні, а за ім і сяброў арганізацыі за гэты год перажылі так значную і нечаканую эвалюцыю? Колькі ў артыкуле праўды, а колькі аўтарскай фантазіі? — пытаю пра гэта галоўнага героя артыкула і звязанага з ім скандалу на лініі Менск — Варшава.

*— Мяне ўвогуле здзівавала, што такі артыкул паявіўся. Гэты журналіст сапраўды ў мяне быў восенню мінулага года — прывялі яго хлопцы з нашай арганізацыі, — але, калі назваўся карэспандэнтам так, памойму, скампраметаванай газеты як „Звязда", я адмовіўся даваць яму якое-небудзь інтэрв'ю. Сядзеў ён у мяне нейкую гадзіну і за кавай гутарылі мы на розныя тэмы. А цяпер, пасля некаторага часу, я даведваюся шмат цікавага пра сябе і маю арганізацыю, напрыклад, што маем сцяг з праваслаўным крыжам (мы дагэтуль думалі, што з Ярылаўскім).*

— Я прызнаюся, напачатку не ўспрыняў гэты артыкул сур'ёзна.

*— На жаль, ёсць людзі, якім вельмі рупіць выкарыстаць гэты артыкул для сваіх мэтаў і яны не стараюцца дайсці, колькі ў ім праўды. Некаторым проста выгадна бачыць нас фашыстамі, камуністамі, анархістамі або яшчэ нейкімі іншымі бандытамі. Раптам паставілі нас у ролю абвінавачанага, дзе мы мусім даказаць, што не з'яўляемся „вярблюдам". Ніхто не зрабіў найменшай спробы прыглянуцца да нашай дзейнасці.*

*Не застаецца нам нічога іншага, як лічыць гэты артыкул чыстай правакацыяй. Тым больш, што і ў іншых месцах былі робленыя спробы сканфрантаваць на Беласточчыне беларусаў з палякамі. Доказам на гэта — публічныя выказванні некаторых афіцыйных асобаў Рэспублікі Беларусь.*

*У нас ёсць такое адчуванне, што апынуліся мы на полі гульні нейкіх сілаў, пра якія мы не маем нават уяўлення.*

— А на якой падставе гэты журналіст напісаў, што ЗБМ схільны да фашызму?

*— Адзінай праўдзівай інфармацыяй у артыкуле ёсць тое, што ў мяне на паліцы стаіць „Майн Кампф". Толькі чаму ён з тысячы розных кніжак выбраў якраз гэтую, а не, для прыкладу, „Камасутру", якая таксама стаіць у мяне на паліцы і напэўна шмат-шмат цікавейшая?*

*А калі доказам злачынства мае быць чорны колер нашага сцяга (з белым шасціканцовым Ярылаўскім крыжам — М.В.), дык тады трэба было б пасадзіць усіх ксяндзоў і варон ды арыштаваць увесь вугаль */. Я адпак разумею, што стаць тлумачыцца, што я сказаў, а чаго не, што праўда, а што звычайны фальш — гэта чыстая рытарычная гульня, якая будзе цягнуцца і цягнуцца, а вынікаў ніякіх не дасць. Таму, на блізкім ужо з'ездзе ЗБМу я падаю ў адстаўку.*

*Маю надзею, што разам з маёй асобай, для Міністэрства зьнікнуць прычыны, каб не даваць для ЗБМу грошай. Прыпомню, што меліся яны ісці на выданне спеўніка і на турыстычныя мерапрыемствы па Беласточчыне.*

— Дзякую за размову.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

---

*/ Мы нізка кланяемся эрудыцыі старшыні Звязу беларускай моладзі. Гэты кавалак пра ксяндзоў, варонаў і вугаль — скрытая цытата з Джэймса Джойса („Уліс"): *чорныя толькі ксяндзы, вароны і англійскі вугаль.*

**(Рэд.)**







## ПРЭЗІДЭНТУ ЎЖО РЫХТУЮЦЬ ПАЛАЦ

☛ *Працяг са стар. 4*

Faceci z „Niwy" адказваюць: выдалі амаль столькі па-беларуску, колькі напісалі. Таму выпадае запытацца ў графа Прушынскага: а колькі кніжак папольску напісалі ў Беларусі?

Што ўдалося будучаму прэзідэнту ў Беларусі?

*Wprowadziłem zasadę całowania dam w rękę. Ja jestem ten, który wprowadza tu nowy styl. Sekretarki prezydenta Szuszkiewicza są szczęśliwe, kiedy ja przychodzę, zaraz wyciągają ręce do całowania.*

О, Беларусь калгасная! Памый рукі! Можа станеш Канадай.

Апрацаваў **ЯН МАКСІМЮК**

*/ Цытаты з газеты „Pryzmat" даюцца з захаваннем арыгінальнага правапісу.

## АЛІМПІЙЦЫ З БЕЛЬСКАГА БЕЛЛІЦЭЯ

У Варшаве закончыліся фінальныя элімінацыі XXIV Алімпіяды рускай мовы. З „нашых" трох ваяводстваў удзельнічала ў іх восем вучняў агульнаадукацыйных ліцэяў у Бельску-Падляшскім, Беластоку, Саколцы, Дуброве-Беластоцкай і Элку. З усёй краіны ў цэнтральных элімінацыях прымала ўдзел 131 асоба. Праходзілі яны на высокім узроўні.

Прыемна нам адзначыць, што лаўрэатамі алімпіяды сталі дзве вучаніцы Беларускага ліцэя ў Бельску-Падляшскім: **Анна Філіпюк** і **Зося Борань**. Рыхтаваліся яны да алімпіяды пад кіраўніцтвам настаўніц Яўгеніі Апалінскай і Зінаіды Навіцкай.

З нашага рэгіёна званне лаўрэата заваявала таксама вучаніца дуброўскага ліцэя — **Малгажата Жабіцкая**. Яе падрыхтоўкай займалася Рэгіна Дзеніс.

Віншуем!

(яц)

## У СПРАВЕ ГІМНА

Шаноўны спадар Рэдактар. Прывітанні Вам ды ўсім супрацоўнікам тыднёвіка "Ніва". Я ўдзячны за старыя нумары тыднёвіка, якія вы мне даслалі - я іх поўнасцю прачытаў. Абрадаваў мяне той факт, што якраз беларускі тыднёвік выходзіць на такім высокім культурным і маральным узроўні. Ваша гэта, няйначай, ды Вашых супрацоўнікаў заслуга. Шмат што змянілася на лепшае. У тыднёвіку можна знайсці артыкулы на рэлігійныя тэмы, гістарычныя, пра жыццё паасобных людзей і грамадскасцяў, экалогію, клопат штодзённага жыцця ў краіне, у суседніх дзяржавах, весткі з усяго свету, з Беларусі і пра беларусаў, якія жывуць у Польшчы. Ёсць у тыднёвіку нешта з перакладаў, паэзія, куточак гумару.

Здарылася, аднак, нешта сумнае - прынамсі я гэта так успрыняў. Пра гэта і хачу напісаць, тым больш, што "Ніва" н-р 7 (14.02.93) гэту справу закранала.

Калі прэм'ер Польшчы Ганна Сухоцка наведала ў лістападзе Менск, я з жахам пачуў гімн "Союз нерушимых". Як гэта можна? Гэта не толькі нетактоўнасць адносна Беларусі, але і вялікая адказнасць перад народам. Беларусы, якіх масава вывозілі з іхніх гаспадарак, мястэчак і вёсак, запоўнілі турмы і лагеры ад Камчаткі і Сахаліна аж да Комі ССР - мучаніцкі народ, яго пот, кроў і слёзы дамагаюцца свайго гімна. Такі вялікі і прыгожы край ад Гродна да Оршы - ці ж не знойдзецца чалавек, які склаў бы словы гімна, свайго, нацыянальнага, беларускага? Хаця б і на мелодыю паланеза Агінскага. Народ у цэрквах спявае "Магутны Божа", палякі таксама спяваюць "Божэ,цось Польскэ..." - хай нацыянальны гімн будзе сапраўды беларускім. Мае Беларусь свой нацыянальны сцяг, мае таксама нацыянальны герб. Можа таксама Беларусь мець і свой нацыянальны гімн. Спадар Цэзар Галінскі напісаў, што конкурс на гімн вырашыцца 1 сакавіка. Можа зноў яго адтэрмінуюць. Я з вялікай зацікаўленасцю буду чакаць срэбнага голасу нацыянальнага гімна Беларусі - дай Божа ніколі "Союза нерушимых".

Для Беларусі жадаю свабоды, для ўраду і грамадзян ахвоты будаваць лепшае будучае і пашаны грамадзянскіх правоў. Беларусам, якія жывуць у Польшчы жадаю лучнасці з айчынай і ўкладу ў адбудову новай Беларусі, а супрацоўнікам "Нівы" і іх сем'ям - памыснасці на штодзень, здароўя і спакою.

З пашанай
брат францысканец
**БРАНІСЛАЎ КАВЭЦКІ**
Катавіцы, 28.02.1993 г.

# БЕЛАВЕЖА

*СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 399*


* * *

*чаму каралю*
*знялі голаў*
*каб не быў каралём*
*чаму злодзею*
*адрубалі руку*
*каб не краў*
*чаму сведку*
*вырвалі язык*
*каб не гаварыў*
*чаму зняволенаму*
*адабралі свабоду*
*каб зразумеў яе цану*
*чаму вынішчаюць народ*
*каб стаў народам*

*АНДРЭЙ СЦЕПАНЮК*

### МАЛІТВА

*Не перашкаджай,*
*калі ўбогі моліцца*
*за хлеб,*
*за працу,*
*за здароўе.*

*Гэта вялікае свята.*

*ЖЭНЯ МАРТЫНЮК*

* * *

І зноў прыйдуць
і нат прасіць не трэба,
зляцяцца, як вароны
ў баразну.
Гатовы прыхіліць табе
паўнеба,
гатовы на жывое
прысягнуць.

І будуць піць
са смагаю лакомай,
так як з калодзежа
п'юць чыстую ваду.
Каб толькі зубы
не звяло аскомай,
калі пачнуць
дзяліцца на хаду.

І будуць крыўдзіцца,
што кожнаму замала,
што меў надзею,
што на больш лічыў.
А хопіць толькі
кінуць праўду ў вочы,
дык кожны скурчыцца,
адразу замаўчыць.

*ЛЕАПОЛЬД ТАНКЕВІЧ*

### PRIMO

Дождж над мястэчкам...
Бясконцы, як смутак Бога.
Вечнай дарогай сьцякае
свая праклятая гліна.
Масток над рэчкай. Закутак
даўняга і былога.
Жыве, працуе, здыхае
моўчкі гэта радзіма.
Постаці з мокрых магілаў
кружаць у навакольлі —
нашыя, і чужыя,
і тыя, хто сам ня знае;
краіна ня мае мужа —
з панам жыве ў няволі,
і ёй непатрэбная воля
ні з чужакамі, ні з намі...
Лепшыя польскія курвы
з нашых растуць пакаёвак.
Лепшыя рускія бляdзі
з нашых растуць каханак.
Бывай! Мы ўсе паміраем —
ніхто не схаваецца ў словах,
І нават Цябе ня будзе,
у кожны крык цалаванай...

*АЛЕСЬ ЧОБАТ*
*(Урывак з паэмы „Чорныя касінеры")*

### ЧАЛАВЕК У АВЕЧАЙ СКУРЫ

З'ядае цэлы род авечы —
Такая ўжо натура.
Заўсёды ўцягвае на плечы
Авечую ён скуру.

Ад бараніны поўны, сыты,
І з выгляду прыгожы.
Не вінаваты ён нібыта,
Як той баранчык божы.

*ВІКТАР ШВЕД*

* * *

у белай сукенцы на выбеленым на росных лугах радне
корань агню гадуе хавае ў далонях ад ветру
гадуе пакуль у моц не ўзрасьце і яго не пакорыць...
узрастае на вуснах мак рвецца ў пальцах дыханьне

на белых сукнях сьцягоў макам гарыць Алаіза

*МІРА ЛУКША*




*Рыс. Міколы Давідзюка, 1985 г.*

## СА СПОЗНЕНАГА ПІСЬМА

Схаваўся ты за гарызонтам. І хаця пісьмы з каляровымі маркамі прылятаюць, то сны мае ўсё больш трывожныя. Калі вернешся Міхась з-за сёмай гары, вып'ем піва. Будзе ўжо восень. І дзяўчаты з пасляжніўным румянцам будуць прытупваць надыходзячай музыцы. Нейлонавыя ніжнія спаднічкі запахнуць далёкім Стакгольмам. Увойдзем мы ў танец, як у сон, як у сярэдзіну лета.

І спусціцца ноч. І радасная задышка ахіне нашыя плечы. І хата запахне аржаным парогам.

*ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ*

*ФРЫДРЫХ ГЁЛЬДЭРЛІН*
(1770—1843)

### ЛЮДСКАЯ СЛАВА

Ці ж не святое сэрца маё, жыцця поўнае,
З гэтай пары, як кахаю? Пусты, балбатлівы я быў,
Горды і просты цяпер —
Больш чаму ж мяне не паважаюць?

Ах, ведае натоўп, што на кірмашы ў цане,
І толькі ўладара паважае халоп,
А ў бажаство паверыць
Той толькі, хто боскі сам.

### КАЛІСЬЦІ І ЦЯПЕР

А ў юнацтве я кожным цешыўся ранкам
І вечарамі плакаў; цяпер, калі пастарэў,
Кожны дзень пачынаю з сумненняў,
Усё ж канец яго ясны й святы для мяне.

*З нямецкай пераклаў*
*ЮРКА ТРАЧУК*

## СЛЕД СІКЕЛЯ

Сікелю даўно казалі людзі, што дакруціцца да бяды. Але, у гэтага свежага паляка на ўсё быў той самы адказ: „А цо-о там!" Камбінаваў гешэфт; работнікаў браў і выганяў, не заплаціўшы ім дарэшты.

Перад лета падпалілі казённы мур, у якім праводзіў Сікель капітальны рамонт. Згарэлі кроквы, пааблятаў шыфер; заняліся ачэпы. Каб не пажарнікі, было б і па столі з падлогаю. Тутэйшыя гультаі пілі потым у забягалаўцы Яйчыхі; за чыёсьці. Камендант паліцыі добра раіў Сікелю – не трэба заводзіцца з галотаю. Не паслухаў, бо з абадранцамі можна не лічыцца.

З мястэчкам слабыя жарты фабрыканту, як калісьці пану — з халопамі. У ім усе ўсім на відавоку, і ведаюць, як і каго падчапіць, каб не ўстаў. Не ўратуе нават польская мова; не пажажаш яе галоднаму на хлеб...

Сікель жа пайшоў на большую рызыку. Скалаціў цалюткую хеўру дармаедаў, і яны за дзень разгрузілі яму на станцыі ў Саколцы вагоны нямецкіх тавараў, якія развёз ён па спекулянтах. Калі дайшло да плацяжу, Сікель сказаў, што не дасць ні граша, бо накраліся яны тут (выняў з дыпламаткі запісаную картку, з якой прачытаў уголас, колькі скрынак і з чым прапала). Быў гэта цэльны блеф: — не наглядаў жа за работаю, верыў, а некаторыя, як відаць, пацягнулі сабе на бок... Сікель прамахнуўся толькі ў адным — не дадумаўся, што злодзей злодзея бачыць навылет. Скажы такому, што ў цябе звалаклі, а ўжо ж не памыліцца ў здагадцы, чыя гэта работа.

Яны, спершапачатку, напраўду аціхлі. Сікель спакойна з'ехаў; жонка падала гарачы абед. За кубкам кавы ды чаркаю каньяку расказаў ёй пра свой нумар з дурнямі. Абое заходзіліся ад рогату. У пасцелі, пасля руціннага кахання, пазасыналі, бы ў яму ўваліўшыся. Ранкам не зразу агледзеліся, што з майстэрні, якая стаіць напрыканцы падворышча, кімсьці ўсянютка вынесена; дачыста, знарок не пакінуўшы і мятлы са скрыняю на адпадкі. Злоснага аўчарыка павесілі на ланцугу над расчыненымі дзвярыма ў гараж (аўтамашыну парэзалі швэйсапаратам).

Сікель змяніў профіль гешэфтаў: набыў вадзяны млын. Ён пэўніўся, што мужыкі не падкінуць яму агонь, а парабак будзе ўсяго адзін. Пры тым, рыба з азярыны пойдзе на даход, ды неблагі сенакос. Але і на гэтым пагарэў, фраерна не падумаўшы, чаму нарваўся на такі шанц (амаль за бесцань). Нямаш чаго і каму малоць; вёска сперлася ў горад.

Сікель папродаў, урэшце, што мог, і эміграваў з жонкаю ў Амерыку. Даходзілі чуткі, што там яго прыбіла хітрая машына, а пекная Сікеліха паветрала кудысьці далей у свет. Часам успаміналі яе і яго, кажучы нейкаму круцелю: „Заробіш, як той Сікель на млыне!" Даволі хутка, аднак, забыліся пра іх і цэлы род іхны. А з гадамі не было каму ўжо і памятаць.

## НЕСУР'ЁЗНЫ ЛЁС ПЯТРА

У надзвычайна гарачае лета Пятро купіў дарагую кватэру ў месцы аддаленым ад магістральнай артэрыі; у квартале, што на ўзвышшы з агародчыкамі. За трыста мільёнаў.

Паназапрошваў у госці новых знаёмых, паказваючы ім усе пяць пакояў. Бабы смакавалі французскія каньякі, а мужыкі пілі шатландскае віскі з лёдам. Тэлевізараў стаяла тры: у гасцёўні, у дзіцячым, у бібліятэцы (там яшчэ і падручны камп'ютэр). Для кока-колы, фруктавых сокаў і мінеральных водаў быў асобны халадзільнік накшталт шафы на двое дзвярэй з дубападобным фарнірам. Кліматызацыя навейвала пахі акацыі (варыянт з ружамі чамусьці блакіраваўся час ад часу).

Напіўшыся, Пятро цягаў мужчынаў — менавіта — у бібліятэку, у якой, замкнуўшыся, глядзелі яны відэакасеты з Капенгагена, з рогатам запыняючы кадры з жарабцоўскімі сцэнамі. Ягоная Ліда — тым часам — хвалілася перад знаёмкамі аўтаматызаванай кухняю, ванным пакоем з херувімкамі на кафліках, і, урэшце, моднымі фасонамі.

Пятра трымаліся грошы. Будучы сялянскай натуры, ён імі не раскідаўся. З пасадамі ўпачатку не надта яму шанцавала, як ні круціўся. Думаў быў нават прыжаніцца з дырэкцыйнай харашухаю з сакратарыята, з гэтай вечнай паненкаю з разбэшчаным падросткам. Але, развязка сама з'явілася: у вярхах былі заклубавалі, каб зняць старога шэфа, і Пятро — барждэжэй ад перапуду — узяў ягоны бок. Досыць трапна, аднак, прадчуўшы, што няпроста выкарчоўваецца гадамі ўрослае... І што пакуль тое будзе, ён прасунецца за час блаславёны дастаткова высока, каб не памачыцца ў наступны водаварот.

Брыняў задаволенасцю, што спрытна ўхапіўся такі за нагоду.

Пятро, аднак, прайграў горш, чым выйграў. У адзін месяц паабсыпаліся дабрадзеі, усе да апошняга, а прышлыя ўзялі і турнулі яго дакладна назад. Не быў яшчэ стары, каб зноў не выбрацца наверх. Але, на сваю бяду, нарадзіўся ён у несур'ёзным месцы Еўропы. Каб так у Швецыі, быў бы ўжо сёння генеральным дырэктарам...

Кватэру давялося збыць ды перабрацца ў слабенькую; маладая жонка пасучыла за лепшым фраерам...

У самае благое папаўся Пятро на тыдзень да Новага года: за даўгі ў свежым бізнесе супражнік нацкаваў на яго бандытаў, якія адбілі яму ныркі, аглушылі на правае вуха!

Стаў інвалідам.

Цяпер шмат ён разумее, а яшчэ больш чытае. Калі пойдзе на шпацыр, не бывае так, каб не пастаяў на ўзгорку і не паглядзеў адтуль у шырокія вокны тае кватэры... Здзіўляецца самому сабе: калі няма чаго жыць, тады наймацней і хочацца!

*САКРАТ ЯНОВІЧ*

# НАШЫЯ ТАТАРЫ І ТАЛЕРАНТНАСЦЬ

*(пачатак у папярэднім нумары)*

Спачатку нашы мусульмане належалі да розных плямёнаў і рас, з выгляду моцна розніліся паміж сабой. Аб'ядноўвала іх толькі рэлігія і вайсковая служба. Як ваенныя палоннікі ці ўцекачы, не мелі з сабой жонак свайго паходжання. Таму вялікі князь Вітаўт дазволіў ім жаніцца з беларускамі, пры ўмове, што будуць мець толькі па адной жонцы. І яны жаніліся з хрысціянкамі. Жонкі іх аставаліся пры сваёй хрысціянскай веры, а па смерці былі хаваны аддзельна, на хрысціянскіх могільніках. Але ўжо дзеці з такіх сем'яў выхоўваліся ў веры бацькі. Гэта было ў згодзе з законам ісламу, які дазваляе жаніцца і з хрысціянкамі, і юрэйкамі, але забараняе выходзіць замуж за хрысціян і юрэяў; пры гэтым дзеці заўсёды мусяць быць магаметанамі. Такія шлюбы ў Беларусі адбываліся ажно да XVII ст.

Ад сваіх беларускіх жонак многія мусульмане атрымоўвалі прозвішчы, як напрыклад, Родкевіч, Багдановіч, Юркевіч. Іншыя прозвішчы ўтвараліся ад імёнаў айцоў, дадаючы да іх, паводле беларускага спосабу, суфіксы -іч, -овіч, -евіч: Ахматовіч, Дзяфіровіч, Юсуповіч і інш. Яшчэ іншыя дасталі прозвішчы ад сваіх двароў: Крычынскі, Карыцкі.

Пад уплывам жонак-беларусак татары хутка асіміляваліся: прымалі беларускую мову і культуру, а сваю з цягам часу забывалі, змянялі свой выгляд. Дзеля рэлігійных патрэб пачалі свае рэлігійныя кнігі перакладаць з арабскай на беларускую мову, запісваючы агульна прынятым у мусульманскім свеце арабскім алфавітам, і пісаць новыя. У XVI-XVII стагоддзях беларуская мова была літургічнай мовай ісламу ў Беларусі. Не пазней XVII ст. на беларускую мову быў перакладзены Каран.

Вось гэты перыяд, перыяд Вялікага княства Літоўскага, быў вельмі добрым часам як для русінаў /украінцаў і беларусаў/, так і для ўсіх іншых народаў і нацый пражываючых там. Мусульмане таксама карысталіся поўнымі грамадзянскімі і рэлігійнымі правамі і мелі матэрыяльны дабрабыт.

Вялікае княства Літоўскае і да сёння застаецца ўзорам талерантнасці, міру і ўзаемапавагі народаў.

У сілу Люблінскай уніі Вялікае княства Літоўскае траціць сваю самастойнасць. Яно становіцца часткай Рэчыпаспалітай. На яго тэрыторыю прыходзяць польскія парадкі, якімі тагачасная Польшча якраз пахваліцца не можа. Гэтыя новыя парадкі спрычыняюць духоўны заняпад у краі, гвалтоўную паланізацыю розных нацый, да якой пазней, пасля падзелаў Польшчы далучаецца яшчэ і русіфікацыя.

Сістэматычна пачынае выцясняцца ўсё беларускае, замяняючы польскім. Прывілеяваным станоўшчам пачынае карыстацца толькі каталіцызм. Усе іншыя веравызнанні пачалі не толькі абмяжоўвацца, але і праследавацца. Адным словам, пачынае дзейнічаць славутая тэорыя, што сапраўдным грамадзянінам Рэчыпаспалітай з'яўляецца толькі каталік. Такая палітыка хутка дае вынікі. Баючыся страціць прывілеяванае становішча, беларуская шляхта пачала паланізавацца. Разам з ёю пачало паланізавацца і яе мусульманскае адгалінаванне.

А вось тыя змены, якія ў той час пачынаюць адбывацца ў асяроддзі нашых татараў.

Побач з рэлігійнымі кнігамі на беларускай мове, памаленьку пачалі паяўляцца і на польскай /таксама арабіцай/, а ўжо ў XVII ст. беларуская мова, пад націскам польскай, перастае быць літургічнай мовай ісламу ў Беларусі, але не становіцца такой і польская мова. Просты мусульманскі люд яшчэ не разумее яе, а Каран на польскай мове паявіўся толькі ў 1857 годзе. І таму мусульмане, аддаліўшы са сваіх святынь беларускую мову, пачалі вяртацца да незразумелай ужо ім арабскай мовы.

Наступаюць і іншыя некарысныя змены. У 1588 г. у "Літоўскі Статут" было ўнесена: "Каб жадны мусульманін ня быў ураднікам". У 1615 г. у мусульманскіх харугвах забаронена мець сваіх ротмістраў і харунжых. Магла імі быць толькі шляхта немусульманскай веры. Нягледзячы на тое, што галоўным заняткам большасці мусульман была вайна, мусульманін мог цяпер даслужыцца толькі да звання паручніка ўключна. У 1616 г. Сойм забараняе мусульманам жаніцца з хрысціянкамі пад карай смерці абодвум бакам. Даглядаць выпаўненне гэтага права даручана інквізіцыі. Забаронена таксама будаваць новыя мячэці і папраўляць старыя.

Вялікае няшчасце сустрэла мусульман у час вайны са Швецыяй /1656-1660 гг./. Расказвае аб гэтым Уладзіслаў Сыракомля на аснове знойдзеных ім мусульманскіх дакументаў: "У 1656 г., калі Швэды занялі Беларусь, шмат якія мусульмане із сваімі сем'ямі ўцяклі ў Польшчу. Калі далей Швэды занялі Польшчу, мусульмане варочаліся назад у Беларусь. У 1656 г. у чацвер перад Вялікаднем, калі яны ехалі із Замброва табарам з 300 вазоў із жанкамі, дзяцьмі і маемасьцей, прагавітая польская шляхта кінулася іх рабаваць. Не памаглі нат каралеўскія універсалы: узброеных мусульманаў пабілі, безабаронныя ўцяклі, табар зрабавалі, а жанчын зьняважылі. Падобныя напады паўтараліся й на іншыя табары мусульманскія, прыкл. на табар, што йшоў праз Ломжу ў кірунку на Гонёндз. Непапраўнай шкодаю было, што польская шляхта, рабуючы мусульманскую маемасьць ля Бронска і Гонёндза, зьністожыла рэлігійныя кнігі їхнія".

Калі гэта называецца "талерантнасцю", дык як тады выглядае "неталерантнасць"?!

І не дзіва, што мусульманскае насельніцтва ў Польшчы пачало хутка змяншацца. Многія з іх пачалі перасяляцца ў Крым і Турэччыну.

У час вайны з Турцыяй у 1672 г. частка нашых мусульман перайшла на бок туркаў і была паселена імі каля Камянца-Падольскага. Пад іменем Ліпкаў нападалі яны на ўкраінскія землі, якія належалі да Польшчы. За намоваю Сабескага ў 1683 г. згадзіліся яны ваяваць супраць туркаў і татараў.

У другой палавіне XVIII ст. і ў Польшчы пачынаюць разумець, што праследаванні не вядуць да нічога добрага і памаленьку адмяняюць некаторыя ранейшыя абмежаванні. На гэтым скарысталі і татары. У 1768 г. дазволена, напрыклад, ім папраўляць і будаваць новыя мячэці. Зроблены былі некаторыя палягчэнні і ў войску. Але даўнейшае права, забараняючае мусульманам займаць вышэйшыя пасады, дзейнічала ажно да падзелу Рэчыпаспалітай.

Калі землі Беларусі, пасля падзелаў Рэчыпаспалітай, трапляюць пад панаванне царскай Расіі, зноў змяняецца статус татараў. Цяпер можна гаварыць ужо і пра распешчванне іх. У сваёй русіфікацыйнай палітыцы, стараючыся ў мусульманах знайсці сабе саюзніка, урад Расіі зраўняў іх у правах з хрысціянскім насельніцтвам, і шчодра адкрыў дарогу да ўсіх урадавых пасад і санаў. А ў 1831 г. было прызнана ім шляхецтва. Мусульмане, данымі ім шанцамі, карысталіся, часта даходзячы да высокіх чыноў і пасад, але, за невялікім выключэннем, русіфікаваць беларусаў і палякаў царскаму ўраду дапамагаць не рваліся.

Прафесар С. Базарэўскі, сам мусульманін, лічыў, што ў 1897 г. у Менскай, Віленскай, Ковенскай і Гродзенскай губернях пражывала 10680 мусульман.

**В. АНТАНЮК**




**ШУМЯЦЬ**

Шумяць вербы каля грэблі:
„Што ты нарабіла?!
Дрэнны бюджэт падала,
Паслы пацвярдзілі!..
На асвету не дала,
Забрала культуры,
Каб залатаць у Бэльведэры
Праклятыя „дзюры",
І на лекі падняла
Сто працэнт аплату,
Каб хоць крышку павысіць
Для паслоў „дыеты".
Выязджаеш за мяжу,
Каб пажабраваці.
Ці не сорамна табе
Ручку працягаці?
Агляніся за сябе,
Як усё прападае,
Што „чырвоныя" зрабілі,
Вартасці не мае.
Падзівіся на здароўе,
Яно ж дарагое,
А за працу у бальніцы
Жабрачы грош маюць.
Як настаўнікі жывуць,
Вучаць нашы дзеці,
Ці датычыць-та цябе?
Не будзеш іх меці!
Пенсіянераў паглядзі,
Што век дажываюць,
На старэчыя гады
Сабачы грош маюць.
„ПГР" як не ўпадзе,
Заўтра разваліцца,
А па збожжа за граніцу
Будзе воз каціцца.
Ты падумай, што зрабіць,
Як далей пражыці,
Каб рукі не выцягаць,
Ласкі не прасіці...
Грошы ж трэба аддаваць.
Нас далей душыці?!
Мо дзяржаву прадаваць
Чужым за граніцу?!
Я баюся аднаго:
Заходняга ладу,
Каб „П" нам не прычапілі
Спераду і ззаду!.."

**МІКОЛА ЛУК'ЯНЮК**




**Паважаны Міхась Куптэль!**

У сваёй адгалосцы ставіце Вы мне закід, што я нічога не ведаю, а ўсё мае артыкулы называеце балбатнёю і манюю. Так, так — я амаль нічога не ведаю. Ведаю толькі, што „Ніва" гэта родны часопіс і люблю гэтую беларускую гаворку, якою на штодзень карыстаюся і буду надалей падтрымліваць свой тэзіс „ці такая чыстая літаратурная мова так вельмі нам патрэбная?". Дай Бог, каб Вы і сям'я карысталіся ў сябе дома „нікудышняй" беларускай мовай так, як мы карыстаемся. Хачу яшчэ Вам дадаць, што я не вораг БГКТ, хаця крытычна пішу аб яго праўленні; таксама я і не Ваш вораг. Ведайце яшчэ і тое, што і сярод камуністаў маю адданых сяброў, бо і сярод іх былі сумленныя людзі. У сваёй „параноі" стараецеся прадставіць мяне, як лайдака і ворага беларушчыны. Дык чаму ж гэты „вораг" на працягу 28 гадоў сваёй працы на пошце прыкладаў і прыкладае найбольш намаганняў у падпіску „Нівы" на сваёй тэрыторыі. Ды яшчэ гэты „вораг" мае намер дагаварыцца з рэдакцыяй „Нівы", каб прысылаць на нашу пошту некалькі дзесяткаў экземпляраў газеты, так як дагаварыўся з рэдакцыяй „Часопіса" і паспяхова яго распаўсюджвае. Калісьці для Куптэля „Голас Радзімы" быў варожы — пісаў ён у „Ніву", што там адна пустота. Для мяне „Голас Радзімы" быў родны, хаця многія артыкулы не адпавядалі праўдзе, бо такі быў час. Усе нумары „Голасу Радзімы" маю ў сваёй бібліятэчцы, бо гэта газета мне блізкая, таму, што пісаная па-беларуску. Ці гэта не дастаткова? Няхай М. Куптэль напіша, колькі ён улажыў сіл у прывіццё і распаўсюджванне роднага слова, каб чытачы маглі ацаніць, хто чаго варты.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**




**ЧАСТКА XXXV**




Прагну сёння прадоўжыць разважанні і прызнанні маладога беларускага бізнесмена.

„Камунізм упаў у нас беспаваротна. Яго ўжо ніхто не адродзіць, хаця многія гэтага прагнулі б. Людзі парвалі вяроўкі, якімі камунізм завязаў іх па руках і нагах. Праўда, многія носяць яшчэ гэтыя вяроўкі на душах. І гэтыя вяроўкі зняць найцяжэй.

Вы гаворыце, што капіталізм эгаістычны. Так, гэта праўда. А хто ў гэтым свеце не эгаістычны. Ну, давайце возьмем найбольш дэмакратычную краіну свету — Амерыку. Гэтая дэмакратычная Амерыка напала на В'етнам, біла, паліла, бамбіла, палівала напалмам. Забіла — колькі? — можа мільён, можа болей. Пакінула болей, чым мільён сіротак і некалькі мільёнаў калекаў. Дайшло здзічэнне да такой ступені, што амерыканцы перапраўлялі ў Амерыку наркотыкі ў целах забітых сваіх салдат!

А што выраблялі нашы ў Афганістане. Трохсотмільённае грамадства павалілася на семнаццацімільённы Афганістан. Паслала тысячы самалётаў, тысячы танкаў, бронетранспарцёраў, мільёны бомбаў і снарадаў. Забілі болей мільёна, адну трэцюю народа прымусілі ўцячы за мяжу, сваіх таксама ўзброілі трыццаць тысяч. Псіхічна і практычна падрыхтоўвалі забойцаў, даказвалі, што гэтая разбойніцкая вайна, гэта інтэрнацыянальны доўг. Ну, дык скажыце, што гэта такое? Ці ж гэта не дзікі звярыны разбой, не варварскае насілле, не здзекі вялікага над малым. А той в'етнамец ці афганец хоча толькі быць гаспадаром на сваёй зямлі!

Ну, дык скажыце, ці мой эгаізм як бізнесмена можна параўнаць з гэтымі дзікімі эгаізмамі Амерыкі і Савецкага Саюза. Я ж гандлюю, а не граблю, не забіваю. Я вяду інтарэсы па прынцыпу дабравольнасці. Хочаш гандляваць са мною — гандлюй! Яшчэ нам гавораць, што мы стараемся заробленыя грошы вывесці за мяжу і там палажыць у заходнія банкі. Гэта так сапраўды. Але ж ці можна дзівавацца?! Колькі гадоў наша дзяржава грабіла тых, хто трымаў грошы на ашчадных кніжках, даючы па 3% за год тады, калі інфляцыя была пяць разоў большая? А што робіцца сёння? Інфляцыя шугнула на многа тысяч працэнтаў, а грамадзянам у ашчадных касах даюць па 12%. Гэта ж кпіны і здзекі. Зрэшты, не буду трымаць грошай у нашых банках яшчэ і з тае прычыны, што адкуль я ведаю, што заўтра ці паслязаўтра ўрад не схоча канфіскаваць мае грошы, як заробленыя незаконна?

Я нашым уладам не веруў і не веру. Замнога і зачаста ашукоўвалі яны народ. А тое, што мае грошы будуць дзейнічаць у карысць Швейцарыі ці Германіі, а не Беларусі, гэта мяне не цікавіць. Дзяржава мае магутны банкавы, гандлёвы і адміністрацыйны апарат. Калі я патраплю зарабіць грошы, дык чаму не можа зарабіць гэты апарат? Хай зарабляе колькі сабе хоча, я яму не перашкаджаю. І няхай сабе заробленыя грошы прызначае на што сабе хоча, — на школы, бальніцы, дамы адпачынку, дзіцячыя лагеры. Гэта яе, а не мой клопат.

Прызнаюся вам, што адчуваю ўжо сябе цесна не толькі ў Беларусі, але ва ўсёй гэтай нашай Садружнасці Незалежных Дзяржаваў. Хацелася б сігануць далей на захад. Пакуль што, ёсць цяжкасці, але не сёння, дык заўтра рванем у еўрапейскую прастору.

Час падпільвае слупы платоў на граніцах і яны хутка паваляцца.

Пацягніце сабе з мае бутэлькі, гэта добры заменжны каньяк. Эх, дзе не прападала наша!.."

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


Хуткая дапамога

## ШТО РАБІЦЬ?

*Паважаная "Зорка"! Я яшчэ вучуся ў школе, але мяне непакояць многія пытанні. Ці зможаш Ты мне дапамагчы?*

*Вераніка К.*
*в. Выдмухова*

**- Што рабіць, калі ў класе няма дружбы?**

— Трэба высветліць, што ёсць. Можа няма нічога.

**- У нас у школе ёсць дзяўчынка, якая з усіх смяецца. Што з ёю можна зрабіць?**

— Трэба пасмяяцца з яе.

**- Ці можна сябраваць з хлопчыкам, які жыве далёка?**

— Можна. Але толькі да таго часу, пакуль ён не пераедзе жыць бліжэй.

**- Што рабіць, калі хлопчыку паслала пісьмо, а ён не адказвае?**

— Пашлі пісьмо дзяўчынцы.

**Загадчык аддзела лістоў**

*З ВУЧНЁЎСКАЙ ТВОРЧАСЦІ*

## ШЧАСЦЕ

Цэлы свет кахаю,
Таго не скрываю,
Але найбольш - Беларусь,
Для якой жыву.
Для якой працую
Ад рання да ночы -
Для дабра Айчыны
І для яе моцы.
Адтуль мая радасць
У сілу вырастае,
Адтуль мая вера -
Жывая і ясная.
Іншага шчасця мне не трэба,
Як тое, што маю.
Толькі няхай у маёй Беларусі
Каханне і праўда жывуць.

**ТАМАРА ФІЛЯНОВІЧ**

BEZPŁATNY DODATEK „NIWY"

# Зорка

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ

ГОД I. БЕЛАСТОК, 7 КРАСАВІКА 1957 г. № 1

**Добры дзень, дзеці!**

Ведаем, што вы ўжо з нецярплівасцю чакаеце сваёй газеты. Вось вам першы нумар яе.

Назвалі мы яе „ЗОРКАЮ" — як прапанавала большасць дзяцей. „Зорка"? Яна будзе памагаць вам вучыцца ў школе і добра, весела праводзіць час пасля заняткаў у школе, будзе вучыць шанаваць сваіх настаўнікаў і бацькоў, любіць мову родную і свой народ.

Яна ўсюды будзе вашым найлепшым сябром: — будзе расказваць казкі, гаварыць вершы, апавядаць розныя цікавыя рэчы, адказваць на вашы пытанні.

Няхай „Зорка" асвятляе ваш жыццёвы шлях!

Чытайце яе, дзеці, і пішыце, як вам падабаецца і аб чым яшчэ хацелі-б каб было ў ей напісана.

Пішыце аб сабе і школе.

„Зорка" чакае на Вашы пісьмы.




— Мама глянь, усе ўжо йдуць,
Грамадой у школу.
І мяне яны завуць...
Я спазнюся й зноў.

— Ат, дзіцятка, пачакай.
Бульба ўжо пячэцца.
Зараз будзе... ну, сядай, —
Матка адзавецца.

— Не, ня буду... пайду так, —
І кніжкі хапае —
Як-жа будзеш, скажы, як?... —
Маці ўпамінае.

А тут зноў-жа за акном,
Чуцен голас даўся:
— Ну Янук! мы ўжо даўно...
Ты йшчэ не сабраўся?

Тут хлапец наш не чакаў,
Покі снедаць будзе,
Схапіў кніжкі і прапаў
За дзвярмі... І гдзе.

*

На дарозе пухавой,
Высланаю снегам,
Беглі дзеці грамадой,
З радасцю і смехам.

ПЕТР ЛАСТАУКА

*Так выглядала першая старонка "Зоркі"* **Фота З. Лянкевіча**

*Вершы Віктара Шведа*

**НІБЫТА АДАБРАЛІ СШЫТАК**

Матэматык запытаў Міколу:
- Чаму ты спазніўся сёння ў школу?
Адказаў Мікола нечакана:
- На мяне напалі хуліганы.
- Мо цябе набілі, нацуджалі,
А магчыма нешта адабралі?..
- Адабралі, - кажа Коля з плачам, -
Сшытак мой з дамашняю задачай.

**Я АДДАЎ ЯМУ РАНЕЙ**

Глянуў тата грозным зрокам
На сынка з падбітым вокам.
- Хто, прызнайся мой сынок,
Вельмі так цябе натоўк?
- Гэта канцавы Іван,
Непапраўны хуліган.
- Ты яму аддаў, Андрэй?
- Я аддаў яму раней!

**ЗОСЯ ДЗЕЛІЦЬ ВОСЕМ**

- Колькі будзе, Зося, -
Запытала Ніна, -
Як падзеліш восем
Напалавіну?
- Упоперак калі -
Будуць два нулі.
А калі вертыкальна -
Дзве тройкі, натуральна!

**ЕЗДЗІЦЬ, ЯК МАЛАНКА**

- Мая мама, - кажа Янка, -
Ездзіць на сваёй машыне
Быццам грозны гром з маланкай,
Выклікае страх у сына!
- Язда мамы, як вядома,
Напаўняе цябе гневам?
- Яна, як маланка з громам,
Часта падае ў дрэвы!

**МУЗЫКАЛЬНАЯ БАБУЛЯ**

- Калі шмат гадоў назад
Чалавек быў малады,
Музыка была нашмат
Прыгажэйшаю тады...
- Ты, - сказаў унук Лявон, -
Музыкальная на здзіў.
Гэта ж не магнітафон,
Толькі міксер я ўключыў!

**ДАГАВАРЫЛІСЯ**

- А што маем мы з авечак?
- Хіба воўну.
- А якія з воўны рэчы?
- Рэчаў поўна.
- А з чаго ты маеш світэр?
- З світра брата.
- А з чаго касцюм пашыты?
- З рэчаў таты.

# У ШКОЛЕ Ў АЎГУСТОВЕ...

... што недалёка ад Бельска-Падляшскага вучыцца больш 150 вучняў. Навучае нас шаснаццаць настаўнікаў і двух законавучыцеляў, гэта значыць настаўнікаў божага закону. Усе - што вельмі важна - з вышэйшай адукацыяй.

У нашай прыгожай двухпавярховай школе вучацца дзеці не толькі з вёскі Аўгустова, якую яе жыхары часамі называюць Ягуштова, але і: з Парцава, Галадоў, Агароднікаў, Грынявічаў-Вялікіх, Катлоў, Белай, Сабуткі і калёніі Зубава. На заняткі прывозіць іх а пасля абеда адвозіць назад ветлівы для ўсіх школьнікаў шафёр "нашага" аўтобуса Яраслаў. Мы не спыталі пра ягонае прозвішча, але напішам наступным разам. Думаем, што наш шафёр і чытачы "Зоркі" выбачаць наш недагляд.

У аўгустоўскай васьмігадовай школе актыўна дзейнічаюць між іншым, Ліга аховы прыроды (гэтай арганізацыяй апякуецца настаўніца Нонна Асташэвіч) і Польскі чырвоны крыж (настаўніца Ірэна Хадакоўская). Хлопцы вельмі любяць займацца спортам, між іншым настольным тэнісам - на перапынках паміж урокамі яны не адступаюць ад стала. У іх спаборніцтвы і спаборніцтвы. Здабылі яны многа дыпломаў. Заняткі па фізкультуры вядзе настаўнік Міраслаў Вакулеўскі.

Ёсць у нас урокі нямецкай мовы, якія вядзе Валянціна Сушч. Ахвотна карыстаем са школьнай бібліятэкі, у якой ёсць таксама кніжкі на беларускай мове. Кніжкі нам пазычае настаўніца польскай мовы Мар'я Садоўская.

Штораз больш падабаюцца нам урокі беларускай мовы. Роднай мове вучыцца ў нас адна пятая частка ўсіх вучняў. Пэўна будзе больш ахвотных. Госцем у нашай школе быў журналіст "Нівы" Мікола Ваўранюк. Беларускі тыднёвік, у якім ён напісаў пра нашу школу, мы беражэм на памяць. Просім наведваць нас часцей. Мы ўжо зрабілі падпіску на "Ніву" на другі квартал. Падпісаліся на пяць экземпляраў кожнага аднаразовага тыражу.

10 сакавіка бягучага года госцем у нас быў член Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа" Янка Целушэцкі. Гэта заслуга перш за ўсё настаўніцы рускай і беларускай мовы Ірэны Хадакоўскай, якая запрасіла да нас у школу аўтара зборніка твораў "Імгненні". Упершыню мы сустрэліся з ім і паэтам Віктарам Шведам на аўтарскай сустрэчы ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы. Мы, ніжэй падпісаныя, былі ўдзельніцамі цэнтральных элімінацыяў дэкламатарскага конкурсу "Роднае слова".

Госць прачытаў нам свае апавяданне прысвечанае дзецям, расказаў і паказаў на старонках "Нівы" і "Зоркі" пра што пісаў у тыднёвіку (быў гэта сёлетні дзесяты нумар), заахвочваў нас пісаць. Аўтар "Імгненняў" звязаны з "Нівай" ад пачатку яе існавання. Пачаў пісаць у "Зорку", калі вучыўся ў падставовай школе. Пытанняў у нас было многа. Наша сустрэча працягвалася дзве гадзіны, з перапынкам пасля першай. Уражанні з сустрэчы з беларускім літаратарам самыя лепшыя. Мяркуем, што будзе яна ў нас не апошняй... На развітанне мы купілі ўсе кніжкі, якія аўтар прывёз з сабою. Пісьменнік падпісаў іх нам на памяць.

Пісьмо ў нас атрымалася даўгаватае, дык пра іншыя не менш цікавыя справы з жыцця нашай школы ўжо ў наступны раз.

З прывітаннем для Цябе, "Зорка"!

**АНЯ НАУМЧУК**
**АНЯ БРЭЧКО**

*АМЕРЫКАНСКІЯ АНЕКДОТЫ*

**НА ЭКЗАМЕНЕ**

Настаўнік пытаецца ў Джона:
- Ты чаму спісваеш у Джыма?
- Не, сэр, - адказвае Джон, - гэта ён спісваў, а я зараз правяраю, ці правільна ён гэта зрабіў.

**У ДЗІЦЯЧЫМ САДКУ**

Выхавацельніца патраціла 15 хвілін, каб надзець калготкі на маленькую дзяўчынку. Калі яна нарэшце іх нацягнула, дзяўчынка сказала:
- Гэта не мае!

Праклінаючы ўсё на свеце, выхавацельніца патраціла яшчэ 15 хвілін, каб гэтыя калготкі зняць.
- Гэта майго брацiка, - сказала дзяўчынка, - толькі мама калі-нікалі надзявае іх на мяне.

**МАЛЕНЬКІ СХОД**

- Тата, - сказаў Джон, - заўтра ранкам у школе адбудзецца маленькі сход вучняў, бацькоў і настаўнікаў. Трэба, каб ты быў.
- А чаму ты такі сход называеш маленькім?
- Таму, што на ім будуць толькі ты, я і мой настаўнік.

**В.БАБЕЙ**

## НА ПАРОЗЕ САМАСТОЙНАГА ЖЫЦЦЯ (3)

Вытокі інфантылізму ў тым, што ты, яшчэ не ўступіўшы ў працоўнае жыццё, ушчыльную не сутыкаешся з праблемамі сталага, дарослага свету. Між тым ты выдатна разумееш, што іх не пазбегнуць, а гэта параджае песімізм, няўпэўненасць у заўтрашнім дні і, як адно з вынікаў, - неахвоту сталець. А яшчэ М. Г. Чарнышэўскі гаварыў, што без прывычкі да самастойнага ўдзелу ў грамадскіх справах малады чалавек не становіцца мужчынам высакароднага характару.

Інфантылізм гэта запозненае сацыяльнае сталенне, маральная нясталасць, захаванне ў сваім духоўным вобліку рысаў, уласцівых дзецям. Наяўнасць інфантылізму заўсёды сведчыць аб пэўных хібах у сацыялізацыі сучаснай моладзі. Пад сацыялізацыяй маецца на ўвазе засваенне сацыяльнага вопыту, набыццё неабходных навыкаў і ўменняў, маральных каштоўнасцей, падрыхтоўку да выканання разнастайных сацыяльных роляў, жаданне бязбоязна прымаць на сябе адказнасць за сябе і за другіх, што дазваляе гаварыць аб самастойнасці чалавека, аб сталасці асобы. Савецкі сацыёлаг І. В. Бястужаў-Лада так вызначае гэту з'яву: "Інфантылізм - гэта шматковасць, няўстойлівасць ведаў, няўменне аналізаваць рэчаіснасць, адсутнасць крытычнага падыходу да сябе, да жыцця. Такі чалавек не заступіцца за пакрыўджанага, слабога, будзе абыякавым да чужой бяды, безаглядна парушыць маральныя нормы паводзін".

Вы просіце ў бацькоў модную вопратку, абутак, магнітафон, часта нават патрабуеце, але, напэўна, не заўсёды задумоўваецеся, як цяжка дастаюцца грошы на такія дарагія пакупкі, асабліва калі зарплата ў бацькоў невялікая. Ці не лепшым выйсцем было б знайсці якуюнебудзь часовую працу і зарабіць гэтыя грошы самім?

Не менш важна таксама, каб вы самі, без падштурхоўвання, без прымусу, бралі на сябе адказнасць за многія сямейныя справы. Іменна пачуццё адказнасці і датычнасці да спраў сям'і дапаможа пераадолець безыніцыятыўнасць і баязлівасць, няўпэўненасць у сябе - тыя якасці, якія з'яўляюцца пачатковымі сімптомамі інфантыльнасці.

Утрыманства, адсутнасць волі і пачуцця адказнасці, імкненне ўсё зваліць на другіх, у тым ліку на сваіх бацькоў, - якасці, не такія рэдкія ў сучасных маладых людзей. Але ж уменне пераадольваць цяжкасці, стрымліваць свае празмерныя жаданні, праяўляць ініцыятыву, самастойнасць, адказнасць, грамадзянскую сталасць не прыходзяць самі сабой. Гэтыя якасці патрэбна пастаянна выхоўваць у сабе. Між тым, колькі яшчэ ёсць маладых людзей, якія лянуюцца разабрацца ў сутнасці жыццёвых праблем і сітуацый. Ім значна лягчэй уключыць магнітафон з любімым рокам ці засесці перад тэлевізарам.

Безумоўна, інфантылізм можна пераадолець! Калі ў чалавека моцная воля, калі ён ясна разумее, чаго хоча ад жыцця, то зможа вырвацца з-пад "цяплічнай" апекі. Але такое пад сілу не кожнаму, а толькі таму, хто зможа развіць у сабе самастойнасць, мужнасць, вытрымку і іншыя валявыя якасці. Заслугоўвае павагі толькі той чалавек, які праяўляе грамадскую сталасць, хоча вызначыць самастойна сваё месца ў жыцці, умее пераадольваць цяжкасці, праяўляе цвёрды характар,

Б. С. Алякрынскі, аўтар папулярных кніг аб самавыхаванні, піша: "Часцей за ўсё мы бываем не бяссільныя, а бязвольныя. Сваю ж няздольнасць да напружанай працы прыкрываем гаворкай пра нястачу прыродных даных. Так спадручней і перад іншымі, і перад сабой, а галоўнае - не сорамна. Але гэта самаабман. Калі ў цябе малыя прыродныя даныя, значыць, працаваць табе трэба больш. Толькі і ўсяго". Ды і самі мы ведаем нямала доказаў таго, што менавіта настойлівая праца ляжыць у аснове любога адкрыцця, вялікага поспеху.

**В.А. БАЛЦЭВІЧ,**
**Л.М. ГАРБАЦЕНКАВА**

*(Працяг у наступным нумары)*

*ГРАХІ ДЗЯЦІНСТВА*

### СТАРЫ АСТАЛОП І КВЕТКІ

У школе аб'явілі конкурс на найпрыгажэйшы клас. Кожны перапынак школьная тройка правярала, ці няма паперы на падлозе, ці чыстая дошка, ці на падваконніку чыста, ці кветкі чыстыя і ці падлітыя.

Праз настаўніка польскай мовы старога Астапоўскага нам заўсёды забіралі пункты. Ужо ўсе настаўнікі пісалі даўгапісамі а ён яшчэ атрамантам. Заўсёды ў канцы ўрока падыходзіў ён да вакна і чысціў сваю асадку. Атрамант ляцеў на лісткі і вазоны. Забіраў нам нават частку перапынку. Як толькі закрыюцца за ім дзверы, то ўбягаюць тыя з камісіі і нават слухаць не хочуць, што гэтыя чорныя плямы, гэта атрамант Астапоўскага.

Выйшлі мы ўтраіх са школы - я, Крыся і дзве сёстры Ліля і Аня. Аня было год малодшая.

Стары Астапоўскі быў выхаваўцам Ані.

- Вось які "стары Асталоп", - пачалі мы наракаць, - праз яго нам "пункты" забіраюць. Заўсёды кажуць, - чацвёрты клас не дбае аб падваконніку і кветкі.

- Чаму вы так дрэнна гаворыце аб сваім пану, - абурылася Аня. - Пабачыце, што будзе, калі я яму скажу!

- Толькі паспрабуй, а пабачыш, што табе ад мамы будзе! - пагразіла Ліля.

На другі дзень прыйшоў Астапоўскі на ўрок і адразу паставіў нас тры на ногі.

- Ну то раскажыце, дзяўчаткі, як вы свайго настаўніка праслаўлялі? - спытаў.

- Мы нічога не гаварылі, - адказалі хорам.

- Як гэта не, а хто сказаў, што праз "старога Асталопа" вам "пунктацыю" забіраюць? Вось культурныя дзяўчаты. Адна дачка скляповага, другая гаёвага, а трэцяя там яшчэ якаясь (мяне добра не ведаў, бо мы перасяліліся з іншай вёскі). Усе тры марш у куток на каленкі!

Сталі мы і стаім. Крыся плача, што як даведаецца бацька, то яе наб'е. Яе бацька быў вельмі грозны.

Мы з Ліляй смяяліся.

Прастаялі адзін урок і перапынак, другі ўрок (былі два ўрокі падрад польскай мовы) і на перапынку настаўнік з каленак нас не зняў.

Хтось аб гэтым сказаў дырэктару. Прыйшоў дырэктар і паклікаў нас у канцылярыю. Распытаў, як і што і, усміхнуўшыся, сказаў:

- Вось бачыш як табе, Катыньская сястра, свінню падлажыла.

- Гэта нічога, - адказала абыякава Ліля, - але пабачым, як будзе дома.

Дома маці збіла Аню. Нагаварыла ёй так, што Аня доўга баялася з намі ісці. Як мы выйдзем са школы, то яна ідзе або некалькі метраў перад намі, або за намі.

Крыся сама расказала бацьку аб гэтым здарэнні. Бацька акурат быў у добрым настроі і толькі пасмяяўся.

**Ірэна Салавей**



## ВЕР-НЕ-ВЕР

Даражэнькі Астроне! Прысніліся мне ўчора сабакі. Былі яны вельмі дзіўныя. Не ведаю, ці я стаяла, ці сядзела, але ведаю, што адбывалася гэта на нейкім панадворку, быццам на вёсцы.

Нечакана бачу: імчацца два вялікія сабакі, імчацца, як маланка. Я занепакоілася, а яны бягуць проста на мяне. Але, калі прашмыгнулі каля мяне, а ўласна кажучы, каля майго вуха, мне стала вельмі прыемна. Поўсць іх была мяккая і прыемная, і мне ад гэтага зрабілася радасна.

Думаеш, Астроне, гэта было ўсё?! Быў жа яшчэ і трэці сабака. Ён быў учэплены на ланцугу каля будкі, якая стаяла каля нашай быццам хаты. Гэты сабака пачаў гаўкаць, кідацца да мяне, фырчэць неяк, а я яго зусім не баялася. Наадварот, мне было прыемна і цёпла.

Астроне! Што гэтыя сны маглі б абазначаць? Мо яны былі звязаныя з тым, што раніцай мы пасварыліся з маім мужам, а фактычна перагаварыліся толькі. Яму хутка адлягло і пачаў ён да мяне ізноў ласіцца, быццам тыя сабакі...

**Яня**

Яня! Сабаку сніць, калі ён мірны, калі лашчыцца, — добра. Значыць, што ёсць у цябе добры, адданы прыяцель. Калі сабака нападае — значыць, маеш нейкага лютага ворага. Твае сабакі былі дзіўныя — з выгляду яны былі грозныя, фыркалі, кідаліся, а ў выніку давалі цяпло і радасць. Так як у сям'і бывае. Мяркую, што ты правільна разгадала свой сон.

**АСТРОН**

# ШТО КРАЙ, ТО І АБЫЧАЙ, ШТО ГОРАД, ТО І НОРАЎ

### Забабоны

Яшчэ многія з нас вераць у забабоны... Вось для прыкладу, калі чорны кот перабяжыць нам дарогу, дык можам спадзявацца толькі дрэннага, сустрэне нас няшчасце а ўжо сама менш нейкая непрыемнасць і то неўзабаве. Тое самае чакае нас, калі перабяжыць нам дарогу заяц, але з правага на левы бок. Калі з левага на правы бок, дык такога факту можна не браць пад увагу - усё будзе нармальна. Верыць у гэта, ці не верыць? Найлепш пераканаецеся ў тым, калі прасочыце на сваім уласным прыкладзе.

Жыхары шматлікіх еўрапейскіх краін не рызыкуюць адкрыць парасон дома або перайсці пад драбінай. На поўначы Еўропы няшчасце прыносіць рассыпаная соль. У іншых - паўднёвых краінах - разлітае віно або аліўкавы алей. У Ісландыі не прыкурваюць папяросу ад запаленай свечкі, каб не патанулі караблі, якія выплылі ў адкрытае мора.

У Італіі і ў Іспаніі нельга адварочваць зрок ад гарбатых, якія прыносяць шчасце. Аднак калі вы ўбачыце гарбатых жанчын, сустрэтых перад поўднем, дык можаце спадзявацца няўдачы.

Дзень 13 кастрычніка лічаць нешчаслівым амаль ва ўсёй Еўропе, за выключэннем Італіі, дзе прыносіць ён шчасце. А які дзень прыносіць няўдачу? Пятніца 17-га. У Грэцыі і на Кіпры трэба вельмі апасацца ў аўторак 13-га. У гэты дзень лепш не выязджаць у падарожжа і нічога важнага не вырашаць. Як бачым, на поўдні Еўропы нешчаслівыя дні гэта аўторкі і пятніцы.

У каталіцкіх краінах вельмі зважаюць, каб пры адным стале не пасадзіць трынаццаці чалавек /памятка па Іудзе, трынаццатым удзельніку Тайнай вячэры/. Інакш да гэтага адносяцца ў пратэстанцкай Галандыі і Скандынавіі. У Італіі саджаюць каля стала ад трох /тры Грацыі/ да дзевяці /дзевяць Музаў/ чалавек. А калі больш чым дзевяць гасцей? Тады прыносяць другі стол.

У Аўстрыі, як толькі ўбачаць камінара, дык адразу хапаюцца за гузік і трымаюць яго, пакуль не прабяжыць кот або сабака. Ёсць перакананне, што чатырохногія ахоўваюць нас ад няшчасцяў. Яно вядзе сваю радаслоўную са славянскіх традыцыяў. Аўстрыя, падобна як Італія, з'яўляецца краінай самых розных забабонаў. Калі сядзеш абедаць на рагу стала, будзеш мець зласлівую цешчу. А калі ў ложку, у якім спіш упершыню, нешта табе прысніцца? Несумненна, сон збудзецца.

У Турцыі нажа і нажан ніколі не падаюць непасрэдна з рукі ў руку. Трэба іх пакласці на стол і адтуль бярэ іх другая асоба.

Дзень 8 студзеня ў некаторых грэчаскіх вёсках з'яўляецца святам жанчын. У гэты дзень мужчыны займаюцца пры кухонных плітах, вараць страву, прыбіраюць у спальні і іншых памяшканнях. У Люксембургу жанчынам усё можна на працягу трох апошніх дзён масленіцы /астаткаў/. У Ісландыі 29 лютага жанчынам дазваляецца рабіць шлюбную прапанову мужчынам, якія тэарэтычна не могуць адмовіць. Калі брыдчэйшы пол намерваецца даць адмоўны адказ, дык яго прадстаўнік павінен купіць той жанчыне падарунак і то не абы-які, а за вялікія грошы. У Францыі 1 мая наведваць знаёмых можна толькі з ландышам.

Ва ўсёй Еўропе малююць велікодныя яйкі. У Грэцыі малююць іх на чырвоны колер, на памятку крыві Хрыста. У перадвелікодную пятніцу ў Вялікабрытаніі ядуць булкі аздоблены крыжам.

Многа звычаяў звязана з Новым годам. У Італіі жанчынам прыносяць у падарунак чырвоныя майткі і віншуюць з Новым годам. У Германіі, у Аўстрыі і ў Швейцарыі растопліваюць у лыжцы свінец, а пасля пераліваюць яго ў халодную ваду. Форма застылага металу прадказвала, ці надыходзячы год будзе ўдачны. У навагоднюю поўнач у Францыі людзі цалуюцца пад амялой, у Аўстрыі танцуюць вальс. На Кіпры трэба памятаць, каб чхнуць, бо гэта гарантуе, што ўвесь Новы год будзе шчаслівы...

### Расклад заняткаў

У Парыжы а гадзіне восьмай яшчэ нікога няма ў працы. А 10.30 у Англіі робяць перапынак на малую каву. У Скандынавіі пара на бутэрброды прыпадае а гадзіне 11.30. Пасляабедзенны адпачынак у Францыі, Грэцыі і ў Іспаніі - між 13 а 15-ай.

У Іспаніі і Партугаліі няма ў звычаі тэлефанаваць дадому раней чымсьці а гадзіне 11 раніцы, а ў Аўстрыі - у абедзенны час /12-14/, а ніколі пасля гадзіны 21 не тэлефануюць у Швейцарыі і ў Аўстрыі ды пасля 22-ой у Парыжы. Жыхары Германіі, Вялікабрытаніі і Швейцарыі на дамоўленую сустрэчу наогул не спазняюцца, а прыходзяць пунктуальна што да мінуты. Гэтаксама і на абед. Гадзіна дык гадзіна.

### Добры дзень, прывет

У Англіі і ў скандынаўскіх краінах дзве асобы паціскаюць рукі толькі тады, калі нехта іх упершыню знаёміць. Звычай паціскання рукі захаваўся да нашых часоў ажно з сярэдневякоўя. Два бакі паціскалі сабе рукі, каб узаемна ўпэўніцца, што не маюць у руцэ кінжала.

Уплыў французскай культуры прынёс звычай цалавання ў шчаку. У многіх еўрапейскіх краінах цалуюць жанчын у руку. Між іншым у Польшчы. Ніколі нельга гэтага рабіць у Англіі. Рэдка калі цалуюць у руку ў Францыі. А калі ўжо так, дык толькі замужніх жанчын, і ніколі на вуліцы. У Іспаніі цалуюць жанчын у руку нават на вуліцы. І робяць гэта таксама духоўныя. У Грэцыі цалуюць у руку толькі ксяндзоў.

*/Працяг будзе/*

**/А-ЦЯ/**

### Ліст у рэдакцыю

Слухаючы радыёперадачы „Katolickie Radio Podlasia”, я даведаўся, што неўзабаве пабольшыцца лік беларускіх святых, а ўсё дзякуючы каталіцкім святарам на Падляшшы.

У 1875 г. у вёсцы Пратуліна дзесьці каля сённяшняй мяжы з Беларуссю казакі забілі 13 яе уніяцкіх жыхароў. Знаючы хаця трошку гісторыю, вядома, што гэта маглі быць толькі нашыя хлопцы — беларусы. Палякаў сярод уніятаў не было. Тое, што пачуў я па радыё вельмі мяне ўсхвалявала. Рыхтуюць „беатыфікаваць” гэтых нашых хлопцаў як змагароў за хрысціянскую веру на Усходзе. Праўдападобна дапішуць яшчэ ім польскі патрыятызм. Гэта ж жарт з нашага народа.

Да Бога мы ідзем рознымі дарогамі, але калісьці ўсе спаткаемся і што тады скажуць гэтыя забітыя казакамі беларусы тым, якія сёння дзеля сваіх нехрысціянскіх мэтаў мяняюць іх тоеснасць?

**М. Я.**

## КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 3/ упрыгожанне з кветак, 8/ ... Тарасэвіч, 9/ другі пакос, 10/ дакучлівае насякомае, 12/ частка музычнай шкалы, 14/ калісьці, 16/ кантынент, 18/ рака ў Пакістане, 20/ вялікі гістарычны перыяд, 21/ дамашняе кіно, 22/ невялікае кольца, 23/ вярба, 25/ лік, 26/ вучаніца, якая мае выдатныя адзнакі па ўсіх прадметах, 30/ сталіца Судана, 31/ восьмая частка прасторы, 32/ штат у ЗША, 34/ слуп, 35/ маладзёжная авантурысцкая плынь, 36/ вага, груз, абавязкі.



**Уніз:** 1/ не горад, 2/ музычны інструмент, 4/ займеннік, 5/ урачысты верш, 6/ краіна ў Еўропе, 7/ танец, 11/ напр. футбол, 13/ горад у Галандыі, 14/ выбоіна, 15/ імя Пестрака, 17/ бервяно паміж вушакамі, 19/ лік, 20/ прыстаўка, якая адносіцца да мінулага, 24/ пачатак спаборніцтва, 26/ сын Кейстута, 28/ горад у Гродзенскай вобласці, 29/ жаночае імя, 32/ малая Юлія, 33/ від папугая.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на касяк з 7 н-ра. **Управа:** фізік, філолаг, фактура, француз, Украіна, хамяк. **Улева:** хімік, філосаф, хаўтуры, хроніка, футарал, уніят.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Аляксандр Дабчынскі** з Беластока і **Мікалай Красоўскі** з Бельска-Падляшскага.

Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міранoвіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка "Ніва"

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1993 r. upływa 20 maja 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## МА КАТ РАЗМЫ

*Вятры „белавежскія"*

**МІРАБІНТ**

Вочы бінтуе Міра
Мара-магільным кірам.
Усміхніся, Коціку,
Усімі зубкамі ў роціку.

**P.S.**

А справядлівасцю даражы,
Ад злога вока беражы.

**СІДАР МАКАЦЁР**

*ЛЕАНІД ГЛУШКО*

**БАБА СОНЯ І СЕКС**

Наваднілі сексам фільмы,
Тэлеперадачы.
Паспяшае баба Фіма
Да экрана з дачы.
— Прыязджай на тэлік, Соня, —
Братаўку гукае. —
Модны секс пакажуць сёння,
Развядзеш рукамі.
... З пацалункаў фільм пачаўся.
Дзея ля Берліна.
Лоўка гіцаль агаляўся,
Распранаў дзяўчыну.
Разгарачаны мужчына
Круціць голым задам.
А на ім ляжыць жанчына,
Цела ўецца гадам.
Ані сораму ў паглядзе...
Во любоў якая!
Баба Соня, нібы ў чадзе,
Залу пакідае.
І плюецца:
— Як сабакі,
Глянь ты, прынародна
Паказалі ўсім нам с...,
Бо цяпер так модна!




Мал. П. Козіча

**АНЕКДОЦІК**

— Дзе ты так позна затрымалася? — пытае муж у жонкі.

— Разумееш, сустрэла свайго аднакурсніка. Дык запрасіў у госці. Пагаманілі. Успомнілі тое-сёе. Ён такі анекдоцік расказаў — рагатала, ледзь ад смеху з ложка не ўпала.






*— У чым сакрэт вашага даўгалецця?*
*— Грошай на пахаванне няма.*

Малюнак А. Гуцола

*АМБРОЗ БІРС*

# БАЙКІ

**ПУРПУРНАЯ СВЯЧА**

Мужчына, які паміраў, паклікаў да сябе жонку і сказаў:

— Хутка я назаўсёды пакіну цябе, таму прашу — дай мне апошні доказ тваёй вернасці і кахання. У шуфлядцы майго стала ты знойдзеш пурпурную свячу, якую асвяціў Найвышэйшы Святар і якая нясе вялікі сэнс. Пакляніся, што ты не пабярэшся шлюбам з кім-небудзь іншым, пакуль гэтая свяча існуе.

Жанчына пакпялася, і Мужчына памёр. На пахаванні Жанчына стаяла каля труны з пурпурнай свячой і не адышла, пакуль свяча не згарэла дашчэнту.

**МАРАЛЬНЫ ПРЫНЦЫП
І МАТЭРЫЯЛЬНЫ ІНТАРЭС**

На вельмі вузкім масце, па якім мог прайсці толькі адзін, сустрэліся Маральны Прынцып і Матэрыяльны Інтарэс.

— Падай ніцма, нізкае пачуццё! — грымнуў Маральны Прынцып. — Я прайду па табе!

Але Матэрыяльны Інтарэс толькі моўчкі глянуў таму ў вочы.

— Ну, добра, — няўпэўнена сказаў Маральны Прынцып, — давай кінем жэрабя, хто саступіць дарогу, пакуль іншы пройдзе па мосце.

Матэрыяльны Інтарэс маўчаў і, не міргаючы, глядзеў таму ў вочы.

— Каб пазбегнуць канфлікту, — вырашыў Маральны Прынцып, — я сам табе лягу пад ногі.

І тут Матэрыяльны Інтарэс загаварыў:

— Не думаю, што па табе прыемна хадзіць, а я вельмі пераборлівы наконт таго, што ў мяне пад нагамі. Лепей табе скочыць у ваду.

Маральны Прынцып скочыў.

*З англійскай пераклаў*
*Алесь Кудраўцаў*

## СЕНТЭНЦЫІ

На паўборце даплывеш да самога дна.

* * *

Жыццё — гэта паток слёз з пакутнай гары і кропля мёду з пялёстка радасці.

* * *

Драпіна на целе — рана душы.
Драпіна на душы — сляза Збавіцеля.

**БАРЫС РУСКО**

## МІЖ НАМІ

**ДОБРА ЗАРАБІЎ**

У адной вёсцы гулялі вяселле. Малады, як усе казалі, быў даволі скупы. Калі музыкі пачалі іграць "На дзень добры маладой", даў усяго адну тысячу злотых.

- Вазьмі, - сказаў гарманіст, - рэшту.- І выдаў маладому дзесяць тысяч.

- Ага, - сказаў малады і ўзяў грошы.

**КАХАНЫ СЯБРА**

Ішоў Юрка дадому п'яны, па вузкай сцежцы. Было цёмна. Раптам нехта абняў яго і пачаў цалаваць.

- Добры дзень, сябра!

- А хто ж ты такі? - схамянуўся Юрка. - Што ты мяне тут цалуеш, цьфу! Я ж цябе не ведаю, нават па голасе ніяк не магу пазнаць?!

- А мы і незнаёмыя. Але, бачыш, п'яны мы такія, ну, таму вось і сябры... Мой ты каханы сябра!

**СУСТРЭЧА**

Вярталася Кася з працы. Было цёмна, на вуліцы зноў не гарэлі ліхтары. Раптам пачуліся хуткія крокі.

- Нехта мяне гоніць?! - падумала Кася і пабегла.

- Чаму вы ўцякаеце, пані? - лагодна запытаўся мужчына. - Я таксама трохі ў страху. Да мяне, вось, нядаўна двух з нажом выйшлі, ледзьве ад іх уцёк. Не бойцеся, я вас правяду, па дарозе нам, праўда?

Кася супакоілася. Ішлі разам і расказвалі пра розныя начныя жахі. Кася, рада, што небяспека мінула, сказала спадарожніку,што нясе шмат грошай з выплаты.

- Няма чаго вам цяпер баяцца. Я сёння ваш рыцар!

Калі падышлі да дому Касі, "рыцар" раптам вырваў ёй з рук сумку і пабег.

Заплаканая жанчына пайшла на паліцыю. Дзяжурны развёў рукамі: такіх прыемных "рыцараў" шмат у горадзе. Дзе ж ты яго цяпер знойдзеш? Жанчыны больш павінны думаць, знаёмячыся на вуліцы.

**АЎРОРА**



*Мал. С. Рыжыкавай і І. Казлова*




Дарагое Сэрцайка! На летніх канікулах я пазнаёмілася з вельмі мілым і сімпатычным хлопцам. Мы з ім пасябравалі і вельмі добра разумелі адзін другога, хаця ён быў на 5 гадоў старэйшы за мяне. Летам мы бачыліся штодзень, часта хадзілі на дыскатэкі і ў кавярню, шмат гаварылі пра нашыя справы. Калі прыйшоў навучальны год (я паступіла ў матуральны клас), я думала, што ён забудзе пра мяне, аднак я памылялася — ён прыязджаў да мяне кожную суботу сваім маторам. Мы станавіліся штораз больш і больш блізкімі, і ўрэшце ён захацеў пазнаёміцца са мною з таго найбольш прыемнага боку — ён запрапанаваў мне ложак. Да сёння я памятаю яго словы:„Зробім гэта паволі і далікатна".

Мне стала сорамна перад ім. Па-першае, таму, што я, можна сказаць, нясмелая дзяўчына, а па-другое — я не спадзявалася ад яго такой прапазіцыі. Дарагое Сэрцайка, думаю, што яшчэ будзе пара на гэта, і таму я не згадзілася на яго прапазіцыю. Мне яшчэ толькі 18 гадоў... Праўда, усе мае сяброўкі ўжо не дзявіцы і яны (так я гэта адчуваю) крыху насміхаюцца з мяне.

З гэтым хлопцам перада мной хадзіла мая сяброўка, ён (як сам мне сказаў) хадзіў з ёю толькі дзеля сексу. Пра яе цяпер не найлепш гавораць на нашым пасёлку. Я не хачу, каб пра мяне так гаварылі, і баюся, што калі я буду далей хадзіць з гэтым хлопцам, пра мяне суседзі будуць гаварыць тое, што пра маю сяброўку. Трэба ўсё ж сказаць, што гэта першы хлопец, з якім мы так добра разумелі адзін другога і я яго нават крыху палюбіла. Аднак, нягледзячы на маю адмову, ён не забывае пра мяне і піша лісты. У адным з іх ён напісаў мне, што кахае мяне больш, чым крышку. Я ў гэта, праўда, не веру — многа людзей кідае словы на вецер. А можа і са мною ён „ходзіць толькі дзеля сексу"?

Сэрцайка, як ты думаеш, ці я павінна была згадзіцца на яго прапазіцыю? Цяпер маладыя людзі наогул не могуць абыйсціся без „сексу". Мая сястра гаворыць, што толькі я з'яўляюся выключэннем. Аднак, мне здаецца, што я яшчэ занадта маладая і што ўсё яшчэ перада мною, а на секс яшчэ прыйдзе пара. А як ты думаеш, дарагое Сэрцайка?

**Лена**

Дарагая Лена! Ёсць дзве школы наконт турбуючай цябе праблемы. Калісьці страшэнным грэхам было пайсці ў пасцель з хлопцам перад шлюбам. Старэйшыя людзі расказваюць, што дзеўка, якая не захавала сваёй цноты, не мела вялікіх шанцаў на выйсце замуж. А што ўжо гаварыць пра дзеўку з дзіцём! А яшчэ, калі бацькам дзіцяці быў чалавек „лепшага" паходжання, а дзеўка была з простых людзей... Дзяўчына з дзіцём мела перакрэсленае ўсё жыццё і, як правіла , заставалася адзінокай на ўсю рэшту жыцця.

У апошнія дзесяцігоддзі жыццё шпарка пайшло наперад. Асабліва на Захадзе, дзе сёння нават модна мець дзіця і жыць у згодзе ці нават разам з яго бацькам, не выходзячы замуж. Лічыцца, што сілком да сябе не варта прывязваць. Асабліва папулярная гэткая пастава ў Швецыі, Францыі.

Страшэнная хвароба AIDS крыху спыніла сексуальную распусту. Большасць людзей лепш затрымаецца пры адным, але пэўным партнёры, чым будзе рызыкаваць сваім здароўем, а нават і жыццём, змяняючы партнёраў як рукавіцы. Заўсёды ж можа трапіцца хтосьці заражаны.

Зрэшты, не толькі AIDS пужае сёння ахвотных пакахацца крыху свабадней. Забарона ў нашай краіне аборцыі, якая ўвайшла ў жыццё зусім нядаўна, кідае жанчыну ў сітуацыю, падобную да перадваеннага часу. Гэта таксама насцярожвае дзяўчат, і я цябе вельмі добра разумею, Ленка.

Па-мойму, ты вельмі добра зрабіла, не аддаючыся гэтаму хлопцу. І справа тут, думаю, не столькі ў тваіх гадах, колькі ў пачуццях. Ты яго „нават крыху палюбіла", а ён цябе „кахае больш, чым крышку". З яго боку гэта, праўда, магла быць толькі какетніцтва, але ж ты сама не ўпэўнена ў сваіх пачуццях. Дык ці варта рызыкаваць? Іншая справа, калі б ты за ім свету не бачыла, калі б не ўяўляла жыцця без яго... Але і тады была б пэўная рызыка, бо ніколі невядома, што яшчэ хлопцу стрэліць у галаву.

Калі ты па-сапраўднаму закахаешся і „прыйдзе твая пара", таксама памятай пра антыканцэпцыйныя сродкі. Добра быць вольным чалавекам і радзіць дзяцей, калі бачыш у гэтым радасць і сэнс.

**СЭРЦАЙКА**